*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*



# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

СУБОТА, 2 ліпеня 1988 г. № 27 (3437) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## *XIX УСЕСАЮЗНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ КПСС*

**28 чэрвеня 1988 года ў Маскве, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў, пачала работу XIX Усесаюзная канферэнцыя Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**На парадак дня канферэнцыі былі вынесены наступныя пытанні:**

**1. Аб ходзе рэалізацыі рашэнняў XXVII з'езда КПСС, асноўных выніках першай палавіны дванаццатай пяцігодкі і задачах партыйных арганізацый па паглыбленні працэсу перабудовы.**

**2. Аб мерах па далейшай дэмакратызацыі жыцця партыі і грамадства.**

**З дакладам «Аб ходзе рэалізацыі рашэнняў XXVII з'езда КПСС і задачах па паглыбленні перабудовы» выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў.**

**Удзельнікі канферэнцыі прынялі актыўны ўдзел у абмеркаванні даклада. У спрэчках выступіў таксама першы сакратар ЦК Кампартыі Беларусі Я. Я. Сакалоў.**

**Дэлегаты прынялі рашэнні па праектах рэзалюцый:**

**«Аб ходзе рэалізацыі рашэнняў XXVII з'езда КПСС і задачах па паглыбленні перабудовы» і «Аб дэмакратызацыі савецкага грамадства і рэформе палітычнай сістэмы».**

**«Аб барацьбе з бюракратызмам».**

**«Аб міжнацыянальных адносінах».**

**«Аб публічнасці».**

**«Аб прававой рэформе».**

## *М. С. Гарбачоў:*

# «Гаворка ідзе аб лёсе краіны, аб лёсе сацыялізму»

XIX Усесаюзная партыйная канферэнцыя — падзея выключнай важнасці ў жыцці савецкага народа, у сучаснай сусветнай гісторыі. Гэты партыйны форум быў падрыхтаваны ўсім ходам перабудовы, распачатай у красавіку 1985 года.

Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў у дакладзе на XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС «Аб ходзе рэалізацыі рашэнняў XXVII з'езда КПСС і задачах па паглыбленні перабудовы» сказаў: «Тры апошнія гады ў нашым жыцці з поўным правам можна назваць паваротнымі. Намаганнямі партыі, працоўных удалося спыніць спаўзанне краіны да крызісу ў эканамічнай, сацыяльнай і духоўнай сферах. Грамадства цяпер лепш ведае і разумее сваё мінулае, цяперашняе і будучае. Палітыка перабудовы, разгорнутая ў канкрэтныя сацыяльна-эканамічныя праграмы, становіцца практычнай справай мільёнаў. У гэтым сутнасць палітычнай абстаноўкі ў краіне».

Сёння патрэбны новыя кардынальныя рашэнні для далейшага руху наперад. ЦК КПСС лічыць, што ключавым пытаннем з'яўляецца рэформа нашай палітычнай сістэмы.

Прааналізаваўшы вынікі работы ў сацыяльна-эканамічнай сферы, супярэчнасці і праблемы пачатковага этапу радыкальнай эканамічнай рэформы і яе перспектывы, М. С. Гарбачоў падкрэсліў, што поспехі ў справе перабудовы немагчымыя без нарастаючай падтрымкі рабочага класа, калгаснага сялянства, інтэлігенцыі.

«Велізарную ролю ў сацыялістычным абнаўленні нашага грамадства, — сказаў Генеральны сакратар ЦК КПСС, — заклікаы адыграць дзеячы савецкай культуры».

«Мастацкая культура, — падкрэсліў М. С. Гарбачоў, — нясе ў сабе жывую сувязь і пераемнасць пакаленняў, дапамагае чалавеку адчуць блізкасць са сваім народам, яго гісторыяй і надзеямі на будучыню, пакласці ў аснову любой практычнай дзейнасці высокія маральныя ідэалы.

У нашай публіцыстыцы, мастацкіх і навуковых выданнях ідзе небывалая па маштабу, адкрытасці, інтэлектуальнай насычанасці размова аб шляхах абнаўлення сацыялізму, аб гісторыі і сучаснасці. І гэта вельмі добра. Партыя высока цэніць нарастаючы ўклад інтэлігенцыі ў рэалізацыю перабудовы. Мы вітаем актывізацыю грамадскай, палітычнай дзейнасці прадстаўнікоў навукі, асветы, культуры. Мы чакаем ад іх новых творчых адкрыццяў, глыбокага прарыву ва ўсіх сферах думкі і духу».

Дэмакратызацыя грамадска-палітычнага жыцця — катэгарычны імператыў нашага часу.

Адказваючы на пытанне: чаму сёння ставіцца задача кардынальнай рэформы палітычнай сістэмы, М. С. Гарбачоў зазначыў: «Справа... перш за ўсё ў тым, — і гэта мы з вамі павінны сёння прызнаць, — што на пэўным этапе палітычная сістэма, створаная ў выніку перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі, падверглася сур'ёзным дэфармацыям. У выніку сталі магчымымі і ўсёўладдзе Сталіна і яго акружэння, і хваля рэпрэсій і беззаконнасцей. Узнікшыя ў тыя гады каманда-адміністрацыйныя метады кіравання аказалі згубнае ўздзеянне на розныя бакі развіцця нашага грамадства. У гэту сістэму адыходзяць сваімі каранямі многія цяжкасці, якія мы перажываем і цяпер». Адсюль ідзе, зазначыў далей дакладчык, абюракрачванне дзяржаўных структур, аслабленне сацыяльнай творчасці мас, аднаварыянтнасць і статычнасць мыслення, абвяшчэнне дэмакратычных прынцыпаў на словах і аўтарытарнасць на справе.

Пакуль што працэсы дэмакратызацыі ў цэнтры і на месцах ідуць марудна. Недаацэненымі аказаліся сілы інерцыі, тармажэння, кансерватызму. І таму з усёй вастрынёй пастаўлена ў дакладзе пытанне: «Калі палітычная сістэма застанецца нерухомай, без змяненняў, то мы не справімся з задачамі перабудовы».

Важнейшай задачай з'яўляецца адраджэнне паўнаўладдзя Саветаў народных дэпутатаў, уключаючы Вярхоўны Савет СССР.

«Працэс дэмакратызацыі, — падкрэсліваецца ў дакладзе ЦК КПСС, — востра ставіць задачу якаснага паляпшэння сістэмы кіравання шляхам устанаўлення правільных суадносін цэнтра і месцаў, выбарных і выканаў-

(Заканчэнне на стар. 2).



Пасланцы Беларусі — дэлегаты XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі.

## *3 ліпеня — Дзень вызвалення Савецкай Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў*



**Вечны агонь. Не згасае памяць аб Вялікай Айчыннай.**

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1).

чых органаў, рэальнага расшырэння ўдзелу працоўных у кіраванні».

Значнае месца ў дакладзе занялі пытанні развіцця міжнацыянальных адносін. «Адной з найвялікшых заваёў сацыялізму, — сказаў М. С. Гарбачоў, — стаў існуючы ў нашай краіне саюз раўнапраўных нацый і народнасцей. Гэта дазваляе сёння з вялікай перакананасцю сказаць, што і ў далейшым адзіна здаровай асновай нашага развіцця можа быць толькі паслядоўнае правядзенне ленінскай нацыянальнай палітыкі».

Пытанні міжнацыянальных адносін, адзначалася ў дакладзе, неабходна разглядаць у кантэксце цяперашняга этапу развіцця савецкай шматнацыянальнай дзяржавы. Відаць, неабходна ўдакладніць становішча, правы і абавязкі саюзных, аўтаномных рэспублік, іншых нацыянальных утварэнняў.

Шмат месца было ўдзелена пытанням развіцця грамадскіх арганізацый. «У краіне, па сутнасці, фарміруецца агульнанародны патрыятычны рух падтрымкі лініі партыі на перабудову, — сказана ў дакладзе. — Ён уключае ўсе сілы, якія выступаюць за аздараўленне грамадства, — камуністаў, камсамольцаў, беспартыйных, веруючых, жанчын, ветэранаў, моладзь, прадстаўнікоў усіх асноўных грамадскіх арганізацый. Гэты рух адлюстроўвае глыбінныя працэсы сучаснага грамадска-палітычнага жыцця, умацоўвае ўпэўненасць у поспеху справы перабудовы».

Важнейшай перадумовай абнаўлення нашага грамадства ў цэлым з'яўляецца ўнутрыпартыйная дэмакратыя, а таксама размежаванне функцый партыйных і дзяржаўных органаў.

«Ясна, што шлях прагрэсу можа быць толькі адзін — гэта шлях перабудовы, шлях абнаўлення. Партыя будзе выкарыстоўваць усе магчымасці, каб грамадская свядомасць фарміравалася на аснове развіцця дэмакратызацыі і публічнасці і была накіравана на стваральную работу.

Справа абнаўлення мае патрэбу ў гарантыях, мае патрэбу ў абароне. Такія гарантыі неабходна ствараць, умацоўваць як у паслядоўным правядзенні радыкальнай эканамічнай рэформы, рэформы палітычнай сістэмы, так і ў сферы грамадскай свядомасці, духоўнага ідэалагічнага жыцця.

Бясспрэчна, нямала сказана ў апошнія гады засмучальнага і нават трагічнага, такога, што можа выклікаць горыч, боль, прыкрасць і нязгоду. Не ведаць, не заўважаць гэтага, вядома, спакайней. Але з такога падыходу не могуць нарадзіцца рэвалюцыйная свядомасць, грамадзянская пазіцыя, мужнасць і высокая адказнасць чалавека, так неабходныя для поспеху перабудовы. Іменна таму партыя смела пайшла на крытычны перагляд мінулага, аднаўленне гістарычнай праўды, рэабілітацыю тых, хто стаў ахвярай несправядлівых палітычных абвінавачанняў і беззаконнасцей. Гэту работу неабходна прадоўжыць».

Як было адзначана ў дакладзе, нямала зрабілі для абнаўлення гістарычнай праўды і справядлівасці, крытыкі недакопаў і хібаў сродкі масавай інфармацыі. Але сёння прэсе, не зніжаючы ўзроўню крытыкі, трэба ісці ў глыб працэсаў, што адбываюцца ў нашым грамадстве.

Ёсць яшчэ нямала такіх, хто бачыць у аднаўленні ісціны і справядлівасці, у разбурэнні догмаў і стэрэатыпаў нібыта размыванне асноў сацыялізму, ачарненне гісторыі. З гэтымі «прынцыпамі» катэгарычна нельга пагадзіцца. «Мы не маем права дапусціць, — сказаў М. С. Гарбачоў, — каб перабудова спатыкнулася аб камяні дагматызму і кансерватызму, аб нечыя забабоны і асабістыя амбіцыі. Гаворка ідзе аб лёсе краіны, аб лёсе сацыялізму».

«Так, мы адмаўляемся ад усяго таго, што дэфармавала сацыялізм у 30-ыя гады і што прывяло яго да застою ў 70-ыя гады, — сказаў ён. — Але мы хочам такога сацыялізму, які быў бы ачышчаны ад напластаванняў і скажэнняў мінулых перыядаў і разам з тым атрымлівае ў спадчыну ўсё лепшае, што народжана творчай думкай заснавальнікаў нашага вучэння, што ўвасоблена ў жыццё працай і намаганнямі народа, што адлюстроўвае яго надзеі і спадзяванні. Мы хочам сацыялізму, які ўбірае ўвесь перадавы вопыт сусветнага развіцця, у поўнай меры абапіраецца на дасягненні чалавечага прагрэсу».

У дакладзе ЦК КПСС XIX Усесаюзнай партканферэнцыі з усёй яснасцю сказана: «Савецкі народ хоча яснай перспектывы. Дэмакратыі паўнакроўнай і безагаворачнай. Законнасці без выключэння. Публічнасці ва ўсім — у вялікім і малым. Брацтва і таварыскасці ў адносінах. Павагі да працавітасці і таленту, вернага служэння справе і грамадскаму абавязку»...

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

### ◆ Справа для чырвоных следапытаў
### ◆ Як «праваліўся» беларускі клас
### ◆ Ці абавязкова зносіць?

●

ДУМКІ, выкліканыя артыкуламі пра Курапаты, не паддаюцца ўпарадкаванню. Я проста занатаваў іх на паперу. Так, як яны набягалі, накочваліся на мяне.

Не помнік трэба ставіць у Курапатах. Трэба рабіць вялікі мемарыял. Чаму б не зрабіць тут Поле памяці? У знак таго, што былі ў нашай гісторыі не толькі слава, але і бясслаўе. Каб не забываліся людзі на гэта. Каб не паўтарылася падобнае ніколі.

Трэба назваць і тых, хто катаваў і забіваў. Няўжо нікога з ветэранаў не абражае той факт, што нехта носіць Чырвоную Зорку за гэта? Тую Чырвоную Зорку, за якую іншы праліў сваю кроў пад Берлінам?

Колькі гадоў дзейнічаюць у нас чырвоныя следапыты, якія шукаюць родных і сваякоў салдат, што загінулі ў баях за вызваленне Беларусі. А, можа, ахвяры 30-х гадоў таксама варты такога пошуку? Можа, дзенебудзь яшчэ чакаюць і не могуць дачакацца забранага начным «чорным воранам» у далёкіх 30-х? Яны, мяркую, таксама маюць права на літасць.

Ведаю, што забойствы ўдакументаваны, мае знаёмыя сустракалі адпаведныя справы ў архівах. Можа, па гэтай прычыне зачынены нашы архівасховішчы? Добра было б урэшце адчыніць іх і выдаць кнігу з прозвішчамі і адрасамі загінуўшых пад час рэпрэсій.

Варта, мне здаецца, падумаць пра стварэнне таварыства ахвяр сталінскага рэжыму — накшталт колішняга Таварыства паліткатаржан. Няхай бы ацалелыя ў яжоўска-берыеўскіх канцлагерах мелі арганізацыю, якая б абараняла іх інтарэсы.

Супрацоўнікі архіваў звярнуліся ў свой час да ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны з заклікам пісаць мемуары, збіраць пісьмы, дакументы ваенных часоў і перадаваць іх на захоўванне. Можа, добра было б звярнуцца з такім заклікам і да ахвяр 30—50-х гадоў? Няхай бы іх таварыства (калі такое створыцца) мела ўласны архіў, адчынены для ўсіх жадаючых, і клапацілася б аб друку ўспамінаў і дакументаў.

**І. СІНЧУК,**
**член краязнаўчай камісіі Беларускага фонду культуры.**
г. Мінск.

●

**У ДАКЛАДЗЕ А. І. Мальдзіса, з якім ён выступіў на апошнім пленуме праўлення СП БССР, былі выказаны крытычныя заўвагі ў адрас Аб'яднання літаратурных музеяў і яго кіраўніцтва. Гэтыя заўвагі даюць падставу папалемізаваць з іх аўтарам.**

**Не першы раз мы чуем сцвярджэнне, што музеі Я. Купалы і Я. Коласа ў сувязі са стварэннем аб'яднання губляюць свае ранейшыя пазіцыі як цэнтры вывучэння і прапаганды творчасці народных песняроў.**

**А што на самай справе? Вось ужо трэці год (1985, 1986, 1987 гг.) запар праходзіць навуковая канферэнцыя «Каласавіны», якая стала традыцыйнай. Сёлета ўпершыню ў гісторыі праведзены Купалаўскія чытанні, у якіх удзельнічалі даследчыкі творчасці паэта — музейныя супрацоўнікі не толькі з Беларусі, а і з Літвы, Латвіі, Украіны, Расіі, Таджыкістана, Татарыі. Павялічылася ў музеях колькасць наведвальнікаў, распрацаваны новыя экскурсіі і лекцыі, з'явіліся новыя формы работы. Мы пачалі рэалізацыю планаў супрацоўніцтва з літаратурнымі музеямі суседніх рэспублік.**

**У снежні 1987 года пачала працаваць выставачная зала аб'яднання ў Траецкім прадмесці. Яна адкрылася выстаўкай, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння Цішкі Гартнага. Вялікую цікавасць у грамадскасці рэспублікі выклікалі сабраныя па крупінках матэрыялы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю выдатнага пісьменніка.**

**У 1986 годзе ў Дзяржаўным літаратурным музеі ў Маскве адкрыта першая за межамі рэспублікі музейная выстаўка, прысвечаная творчасці Я. Купалы. У гэтым годзе аналагічная выстаўка, прысвечаная Я. Коласу, адкрыецца ў Літаратурным музеі Літоўскай ССР у Каўнасе. Плануем наладзіць абмен выстаўкамі з літаратурнымі музеямі Украіны.**

**Па выніках працы за два гады будзе праведзена навукова-практычная канферэнцыя супрацоўнікаў літаратурных музеяў.**

**Здзіўляе і папрок А. Мальдзіса наконт слабай метадычнай дапамогі. У аб'яднанні створа-**

## НА ПРОВАДЗЕ—ДЭЛЕГАТЫ КАНФЕРЭНЦЫІ

**Раніцай 29 чэрвеня наш карэспандэнт змог звязацца па тэлефоне з членамі беларускай дэлегацыі на XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі — з галоўным рэжысёрам Рускага тэатра БССР імя М. Горкага В. Маслюком і першым сакратаром праўлення Саюза мастакоў рэспублікі С. Гарбуновай. Папрасіў расказаць аб уражаннях першага дня работы канферэнцыі, аб тым, якія думкі і пачуцці выклікаў даклад на ёй Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова. Адбылося своеасаблівае экспрэс-інтэрв'ю.**

Валерый Васільевіч, хацелі пазваніць вам учора вечарам, але падумалі, што не застанем вас на месцы, бо, відаць, дэлегатам канферэнцыі прапанавана вялікая культурная праграма...

**В. МАСЛЮК:— Ведаеце, мне было не да культурнай праграмы. Даклад Генеральнага сакратара, першыя спрэчкі па ім на нейкі момант выцеснілі мае чыста прафесійныя інтарэсы. Тут у Крамлёўскім Палацы з'ездаў, з асаблівай вастрынёй адчуваеш, якімі складанымі праблемамі жыве сёння краіна, з чым прыйшла яна да XIX партыйнай канферэнцыі. Першае ўражанне аб дакладзе... У ім закрануты ў канцэнтраванай форме ўсе бакі палітычнага, эканамічнага, духоўнага, культурнага жыцця краіны. Яшчэ больш пачынаеш разумець, што працэс перабудовы неабарачальны, што альтэрнатывы ёй няма. У той жа час некаторыя моманты, мяркую, выклічуць спрэчкі: напрыклад, выказаная ў дакладзе прапанова аб'яднаць пасады першых сакратароў партыйных камітэтаў і старшынь Саветаў народных дэпутатаў. Гэта не зусім стасуецца з думкамі, выказанымі ў час усенароднага абмеркавання Тэзісаў ЦК КПСС да партканферэнцыі, аб падзеле функцый партыйных і савецкіх органаў. Магчыма, мала ў дакладзе сказана аб ролі творчай інтэлігенцыі, аб уздыме яе грамадскага прэстыжу.**

**Плённая дыскусія па дакладзе, упэўнены, дасць адказы на пытанні, звязаныя з паглыбленнем перабудовы, з дэмакратызацыяй нашага грамадства.**

**С. ГАРБУНОВА: — Асэнсоўваем даклад Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова, дзе закрануты вельмі шырокі спектр з'яў і праблем нашага жыцця, прычын тармажэння перабудовы. Гэта, трэба сказаць, нялёгкая праца. Але з першых хвілін работы канферэнцыі стала ясна — ідзе пошук адказаў на складанейшыя пытанні рэчаіснасці, пошук у духу ленінскіх традыцый, калі нічога не хаваецца, не камуфлюецца прыгожымі словамі.**

**Што асабліва, акрамя даклада, уражвае мяне, дык гэта надзвычай дзелавая абстаноўка, якая пануе на канферэнцыі. Няма і ценю параднасці, пампезнасці, спроб весці пустую балбатню. Хаця спроба такая была з боку сакратара Маскоўскага гаркома партыі В. Белянінава, які, выйшаўшы на трыбуну, пачаў таўчы ваду ў ступе, гаварыць агульнавядомыя рэчы пра важнасць перабудовы. І што вы думаеце — зала адразу выказала сваё незадавальненне такім выступленнем. І адразу ў прэзідыум прыйшла запіска з патрабаваннем гаварыць па сутнасці справы.**

**Затое з неаслабнай увагай зала слухала выступленне дырэктара Інстытута эканомікі Акадэміі навук СССР акадэміка Л. Абалкіна і міністра аховы здароўя СССР акадэміка Я. Чазава. Здавалася б, для мяне. мастака, гэтыя матэрыі не вельмі блізкія, але, ведаеце, слухала іх, стаіўшы дыханне. Карціна, якую яны намалявалі, сведчыць аб тым, што і ў эканоміцы, і ў сферы аховы здароўя склалася вельмі сур'ёзная сітуацыя. Мы ў гэтым плане адстаём ад многіх краін свету, і трэба неадкладна прымаць захады.**

**А пабачылі б вы, што робіцца ў кулуарах у час перапынкаў! Людзі абменьваюцца ўражаннямі, спрачаюцца, даказваюць нешта адзін аднаму. Кожны з нас, дэлегатаў, адчувае вялікую адказнасць за поспех работы канферэнцыі, за яе вынікі.**

## ПАЧАТАК СУПРАЦОЎНІЦТВА



Мухамед Ларусі аль-Мэтві знаёміцца з Максімам Танкам.
Фота Ул. КРУКА.

**Госцем СП Беларусі быў вядомы туніскі пісьменнік і грамадскі дзеяч Мухамед Ларусі аль-Мэтві. Нарадзіўся ён у 1920 годзе, скончыў мусульманскі універсітэт аз-Зейтуна ў Тунісе. Быў паслом Туніса ў Іраку і Саудаўскай Аравіі, дэпутатам Нацыянальнага сходу Туніса. Старшыня Саюза туніскіх пісьменнікаў, клуба маладых літаратараў «Навела», галоўны рэдактар часопіса «Кысас» («Навелы»).**

**Аўтар раманаў «Сярод ахвяр», «Халіма» (у Савецкім**

**ны і працуе навукова-метадычны сектар, які аказвае дапамогу не толькі музеям аб'яднання, але і літаратурным музеям на грамадскіх пачатках. На сённяшні дзень супрацоўнікамі аб'яднання распрацаваны тэматычна-экспазіцыйныя планы музеяў Ф. Багушэвіча, М. Гарэцкага, І. Мележа, аказана дапамога шэрагу школьных музеяў.**

**Прамоўца закрануў пытанне наконт навуковай канцэпцыі будучага Рэспубліканскага музея гісторыі беларускай літаратуры, які створаны загадам Міністэрства культуры БССР у лістападзе 1987 года. Пры гэтым паважаны літаратуразнаўца спасылаўся на тэматычную структуру, зробленую ў 1984 годзе, да стварэння якой мы не маем ніякага дачынення. Гэтая структура была прапанавана СП БССР, аб чым сведчыць інфармацыйная брашура да VII з'езда пісьменнікаў Беларусі.**

**Што датычыць навуковай канцэпцыі музея гісторыі беларускай літаратуры, то гэта праца будзе завершана ў гэтым годзе і абмеркавана на вучоным савеце аб'яднання з удзелам пісьменнікаў і гісторыкаў літаратуры.**

**Хочацца зазначыць: у рабоце аб'яднання не ўсё часам ідзе гладка. Перабудова закранула яшчэ не ўсе куткі нашага вялікага музейнага будынка. Нямала праблем і творчых, і адміністрацыйных, і гаспадарчых. Мы абмяркоўваем іх у калектыве адкрыта, крытычна, сур'ёзна. Спраў хапае, і вырашаць іх трэба сумеснымі намаганнямі музейных работнікаў, вучоных, пісьменнікаў. У нас агульная мэта — стварэнне музея гісторыі беларускай літаратуры, усебаковае вывучэнне і прапаганда творчай спадчыны нашых песняроў.**

**Ю. ВАРАНКОЎ,**
**генеральны дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў БССР.**

●

ДАКАЦІЛІСЯ і ў Лепель адгалоскі дыскусій пра стан роднай мовы ў рэспубліцы. Я змясціў у раённай газеце «Ленінскі сцяг» артыкул «Наша мова ў нашым горадзе». Назаўтра знаёмыя праходу не даюць. Спыняюць на вуліцах, віншуюць, падтрымліваюць. Пайшлі ў рэдакцыю і пісьмы. Не паспелі надрукаваць першы водгук начальніка станцыі хімізацыі райсельгасхіміі М. Місніка, як з другім прыходзіць навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея П. Януш. Брыгадзір слесараўмантажнікаў райаграпрамтэхнікі В. Чарноў дасылае нататку пад назвай «Ёсць зрухі».

У сваіх допісах яны ўздымаюць пытанні самыя розныя. Я закрануў моўную праблему ў радзе. Міснік даказаў, што і у вёсцы гэтая праблема такая ж вострая. Януш здзіўляецца, чаму ў рускамоўных школах мы адкрываем беларускія эксперыментальныя класы, а не наадварот. Чарноў захапляецца дзеяннямі работнікаў камбіната грамадскага харчавання, якія выпеклі для магазінаў горада торты і, замест традыцыйнага «С праздником», акуратна вывелі на іх крэмам «Са святам». Заклікае мастакоў пераймаць прыклад харчавікоў — *з-пад іх жа пэндзля выходзяць* усе абвесткі, шыльды, плакаты.

Пры адной з трох гарадскіх рускамоўных школ вырашылі стварыць беларускі клас. (Летась адкрыццё такога класа ў Лепелі правалілася). Еду да наваполацкіх нефармалаў, знаёмлюся з пятнаццаццю вучнямі адзінага ў горадзе беларускага першага класа, яго арганізатарамі. Прыязджаю дадому. Сумесна з гарана і райкомам партыі вызначаем школу, дзе будуць навучацца «дзеці-беларусы». Атрымліваю ў гэтай школе спіс бацькоў будучых першакласнікаў і іду па кватэрах. Вынік — нуль.

Даведваюся, калі ў двух дзіцячых садках будуць праходзіць выпускныя ранішнікі шасцігодак. Выступаю перад бацькамі (у асноўным былі толькі маці). Яны слухалі ўважліва, падтрымлівалі мяне, згаджаліся і, не згаворваючыся, усе як адзін заяўлялі:

— Няхай усе першыя класы ў гарадскіх школах пераводзяць на беларускую мову выкладання—слова не скажам. А ў эксперыментальны клас сваіх дзяцей не аддадзім. Белымі варонамі будуць выглядаць яны на агульнашкольным фоне.

Тут трэба дадаць, што калі б набралася 9 заяў, беларускі клас адкрыўся б. У нас іх ёсць толькі дзве.

Так у Лепелі другі раз правалілася адкрыццё беларускага класа. Атрымалася, што бацькі мяне пераканалі, а не я іх. Бо пачаў я разважаць, як і яны. Чаму мы павінны адкрываць нейкія эксперыментальныя класы, якіх бацькі баяцца, як чорт крыжа? Чаму не зрабіць поўны перавод першых класаў на беларускую мову выкладання і прытрымлівацца гэтага ў далейшым? Інакш усё гэта гульня ў дэмакратыю.

**У. ШУШКЕВІЧ,**
**карэспандэнт газеты «Ленінскі сцяг».**
г. Лепель.

●

НА ЧЫГУНАЧНАЙ станцыі Уша, што поруч з вялікім пасёлкам Краснае Маладзечанскага раёна, дажывае свой век драўляны будынак вакзала. На ім адбітак часу, і не толькі ў архітэктурным стылі, але і ў сваёй унутранай кампаноўцы службовых памяшканняў. Раней быў асобны пакой, што займала служба асвятлення газавымі ліхтарамі. Іншымі былі сігналізацыя і самі сігналы. З гадамі ўсё мянялася, аджыўшае *станавілася неабавязковым.*

Перажыў гэты вакзал не адну ваенную трагедыю. Уздрыгвалі мясцовыя маці, калі адпраўлялі сваіх сыноў на дапамогу балгарам у іх вызваленчай барацьбе з туркамі ў 1877—78 гадах, плакалі і ў руска-японскую, а першая і другая сусветныя войны самі сюды *прыйшлі. Не раз гэты вакзал і* станцыя былі пад прыцэлам гармат. Лёс жа расправы мінаваў.

Злосць знішчэння нібы зноў успомніла сваю ахвяру. І цяпер ужо замах робіцца на само існаванне будынка, каб больш і не было яго. Каб карункі яго аздобы больш не прываблівалі вока новага пасажыра, каб *было, як і ўсюды: сілікат, шкло,* бетон.

— Чаму стары вакзал павінен знікнуць з гэтага месца? — пытаюся ў станцыйных службоўцаў.

— Таму што стары. Будуецца новы.

— Але ж гэта памяць гісторыі, нават культуры нашай, — спрабую пераканаць работнікаў.

— Рашэнне прынята...

Прыкладна такі дыялог адбыўся на станцыі Уша.

Будынку больш за сотню гадоў. Ён сведка не толькі ваенных падзей. Не раз пад яго дахам затрымліваліся вядомыя дзеячы навукі, культуры, літаратуры.

Праз тры гады споўніцца сто гадоў з дня нараджэння нашага класіка Максіма Багдановіча. На традыцыйнае свята ў суседнюю з Красным Ракуцёўшчыну будуць ехаць тысячы прыхільнікаў яго вялікага таленту. І ўсе ўжо ведаюць, што менавіта гэты стары вакзал першы прытуліў паэта. За два летнія месяцы 1911 года М. Багдановіч не раз прыходзіў на пошту ў Краснае і ў гэты вакзал. Дык хіба можна зносіць гэты будынак, ды яшчэ напярэдадні юбілею? Гэты акт можа быць расцэнены толькі адназначна — дзікунства. Няўжо Упраўленне Беларускай чыгункі якраз і хоча гэтага? Хочацца верыць, што там па-іншаму разважаць, і будзе знойдзены разумны выхад.

Больш таго, будзем спадзявацца, што тут таксама заменяць «ордэр на ордэн», дакладней замест зносу будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка з імёнамі славутых людзей, хто бываў на станцыі Уша і ў мястэчку Краснае, якое па сваім насельніцтве можа і горадам называцца. А бывалі тут Я. Купала, Я. Колас, Ф. Багушэвіч, Я. Лучына, Б. Тарашкевіч, Р. Шырма, К. Паустоўскі, Л. Ржэцкая, Г. Цітовіч, Я. Драздовіч, У. Караткевіч.

Цікава ведаць, што думае ўжо і немалая грамадскасць Краснага, для якой гэта станцыя ладны кавалак гісторыі? Ці можна было б тут нешта рэстаўрыраваць, падрамантаваць, каб і далей існаваў гэты будынак — *самы старэйшы на мінска-маладзечанскім напрамку.* Якраз бы тут і музей чыгункі адкрыць, а не ў Заслаўі, дзе спачатку знеслі стары вакзал, а тады толькі ўспомнілі пра музей.

**Генадзь КАХАНОЎСКІ.**

**Саюзе выйшаў на рускай мове пад назвай «Сэрца жанчыны»), «Горкая шаўкавіца», некалькіх зборнікаў навел, эсэ на гістарычную і сацыяльна-культурную тэматыку.**

**Госць з цікавасцю азнаёміўся з выдатнымі мясцінамі горада-героя Мінска, наведаў мемарыяльны комплекс «Хатынь», музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, радзіму Янкі Купалы Вязынку і Літаратурны музей Якуба Коласа. У Саюзе пісьменнікаў Беларусі аль-Мэтві меў гутарку са старшынёй праўлення Максімам Танкам, першым сакратаром праўлення Нілам Гілевічам, сакратаром праўлення Васілём Зуёнкам. У час размовы ён, у прыватнасці, сказаў:**

**— Саюз туніскіх пісьменнікаў — арганізацыя маладая, ёй дваццаць гадоў. Яна мае каля двухсот членаў, з іх пяцёра пішуць на французскай мове, астатнія — на арабі. Гэта вынік нашага змагання за волю і за нацыянальную самабытнасць. Мы маем добрыя адносіны з Асацыяцыяй пісьменнікаў Азіі і Афрыкі. Нашы сэрцы адкрыты: ўсім пісьменнікам, у тым ліку і беларускім сябрам. Вярнуўшыся ў Туніс, я надрукую на арабскай мове верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?» Спадзяюся, што гэтым будзе пакладзены пачатак нашым добрым творчым узаемасувязям.**

**Л. ЧАРЭШНЯ.**

## СПРАВАЗДАЧА ПАЭТА-ПЕСЕННІКА



Выступае Уладзімір Карызна.

**Больш чым дзве гадзіны гучалі песні Я. Глебава, І. Лучанка, Ю. Семянякі, Э. Ханка, Л. Захлеўнага, Э. Зарыцкага, У. Прохарава і іншых кампазітараў на аўтарскім вечары паэта Уладзіміра Карызны, што адбыўся ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Іх выконвалі сімфанічны аркестр Дзяржтэлерадыё БССР, Дзяржаўны акадэмічны хор БССР імя Г. І. Цітовіча, заслужаныя артысты рэспублікі Т. Раеўская, В. Пархоменка, лаўрэат Усесаюзнага конкурсу М. Жылюк, вакальна-інструментальны ансамбль «Сябры».**

**Адкрыццём гэтага вечара, які вяла народная артыстка БССР З. Бандарэнка, стала прэм'ера трох песень на словы У. Карызны. Іх напісаў У. Карызна-малодшы — сын паэта.**

**П. ГАРДЗІЕНКА.**
Фота Ул. КРУКА.

## ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

# ДЛЯ ПЕРАМОГІ ПРАЎДЫ І СПРАВЯДЛІВАСЦІ

Грамадскасць рэспублікі не магла не заўважыць паведамленне пра тое, што ЦК Кампартыі Беларусі прыняў днямі пастанову аб утварэнні Камісіі Бюро ЦК КПБ па дадатковым вывучэнні матэрыялаў, звязаных з рэпрэсіямі, якія мелі месца ў перыяд культу асобы Сталіна. Па-свойму сімвалічна тое, што пастанова была прынята і абнародавана напярэдадні XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі, рашэнні якой з'яўляюцца, безумоўна, важным крокам наперад у справе дэсталінізацыі і вяртання краіны да ленінскіх норм і прынцыпаў сацыялістычнага будаўніцтва.

Радуюць іншыя захады і факты, звязаныя з далейшым выкрыццём сталінскіх злачынстваў супраць партыі і народа, з рэабілітацыяй ахвяр масавых рэпрэсій, тых, хто, кажучы словамі Васіля Быкава, «з куляю ў патыліцы кладліся ў самімі ж выкапаныя ямы, вымаўляючы не праклён, не пратэст, а адзінае, марнае і трагічнае слова «Завошта?» Напрыклад, факт надрукавання ў газетах «Звязда» і «Советская Белоруссия» пад рубрыкай «Гісторыя без «белых плям» артыкула карэспандэнта БЕЛТА Я. Гарэліка «За адсутнасцю саставу злачынства...» з каментарыем Пракурора рэспублікі Г. С. Тарнаўскага. Гаворачы аб рабоце па скасаванні несправядлівых прысуд і поўнай рэабілітацыі «агромністай грамады людзей, чыё жыццё абарвала або скалечыла бязлітасная машына сталінскіх рэпрэсій», Пракурор Беларускай ССР слушна зазначае: «Паверце, гэта няпростая і нялёгкая работа. Але мы разумеем, як яна неабходна для перамогі праўды і справядлівасці».

Палітычнае празарэнне, клопат аб перамозе праўды і справядлівасці ахоплівае ўсё больш шырокія слаі грамадства. Адным з яскравых доказаў гэтага з'яўляецца сапраўды грамадзянскае па сваёй шчырасці і прынцыповасці выступленне газеты «На страже Октября»—органе Міністэрства ўнутраных спраў БССР — ад 22 чэрвеня г. г. Заметка С. Шкляраўскага «Не трэба баяцца дэманстрацый» змешчана на першай паласе газеты пад рубрыкай «Тэрмінова ў нумар!» і прысвечана мітынгам, якія адбыліся ў нядзелю 19 чэрвеня каля тэатра оперы і балета і ў Курапатах — месцы гібелі незаконна рэпрэсіраваных у гады сталінскага тэрору. «Што кіруе гэтымі людзьмі?— пытаецца карэспандэнт, дзелячыся ўражаннямі ад дэманстрацыі *ў лясным масіве паблізу* Зялёнага Луга, ад выступленняў удзельнікаў мітынгу.— Святая памяць? Несумненна. Але і абавязак, вера ў тое, што падобнае не паўторыцца, што перабудова незваротная... Пра што гаварылі яны? Пра памяць, абавязак, неабходнасць увекавечыць імёны нявінна пакараных, стварэнне мемарыяла, збор сродкаў для гэтага, пра згуртаванасць і пільнасць, пра тое, як паскорыць перабудову... Нам трэба толькі вітаць парасткі духоўнай разняволенасці, прыкметы адтайвання розумаў і душ. Не ведаю, як іншыя ўдзельнікі дэманстрацыі, а я вяртаўся дадому адухоўлены, яшчэ раз адчуўшы асаблівую адказнасць нашага пакалення, жаданне глыбей спазнаць гісторыю.

Грамадскі парадак на мітынгах быў узорны,—працягвае далей аўтар заметкі. — У гэтым перш за ўсё заслуга яго ўдзельнікаў і арганізатараў. На вышыні апынулася і міліцыя, забяспечваючы бяспеку руху, правапарадак. Дакладна, злаjджана дзейнічалі В. Шавяленка, І. Срыбній, С. Верас, А. Чуднікаў, І. Плоткін, С. Чарніцкі, П. Стэфаненка — усіх не пералічыць. Шкада толькі, што ніхто з супрацоўнікаў міліцыі не папрасіў на мітынгах слова, а сярод ахвяр рэпрэсій — сотні іх калег, старэйшых таварышаў па зброі...

Не трэба баяцца дэманстрацый. Падзеі ў Мінску, Наваполацку яшчэ раз пераканаўча пацвердзілі: мы адзіныя, людзі адкрыта выказваюць сваю думку па набалелых праблемах, людзі растуць, людзі вучацца дэмакратыі...»

Просім прабачэння, што зацягнулі цытаванне, але яно ў дадзеным выпадку апраўдана. Па-першае, газета «На страже Октября» ў розніцу не паступае, ідзе толькі па падпісцы. Па-другое, вельмі ўжо паказальны, характэрны для сённяшняга часу факт з'яўлення такой публікацыі ў выданні нашай міліцыі (як тут не прыгадаць вядомыя словы Маякоўскага наконт «маёй міліцыі»).

На фоне апошніх падзей і згаданых публікацый асабліва непрывабна выглядаюць рэшткі культаўскай, супрацьперабудовачнай псіхалогіі, спробы сяго-таго, у тым ліку і некаторых афіцыйных асоб, кінуць цень на высакародныя імкненні разабрацца да канца ў нашым трагічным мінулым, на тую ж публікацыю «Курапаты —дарога смерці». Пушчаны ў абарот і пайшлі па горадзе розныя чуткі адносна публікацыі: маўляў, не ўсё адпавядае сапраўднасці, нехта са сведкаў адмаўляецца ад сваіх слоў, нехта... і г. д. Нехта, скажам так, зацікаўлены ў распаўсюджванні такіх чутак. Нехта, скажам інакш, не зацікаўлены, відаць, у тым, каб факты і сведчанні пацвярджаліся, каб праўда і справядлівасць перамагалі.

Але ўсё за тое, што яны перамагаюць і пераможуць!

## ПАЭЗІЯ

**Кастусь КІРЭНКА**



### Агонь Рэвалюцыі

Не засланяйце ад маланак вашы душы,
Не летуценьце пра спакойлівасць і сонь!
Няхай на новы ўзлёт
вас явай дзён узрушыць
Свяшчэнны Рэвалюцыі Агонь.

Жыццю удзячнасць зберажэ
хай кожны —
Што выпала яшчэ нам
зноў і зноў
Сцяг Рэвалюцыі
праменны, пераможны
Трымаць у шэрагах сваіх сыноў.

О лёс мой,
Ты мяне вучыў на штурмы ўзняцца,
З табой гаіў я і тугу сваю і боль.
А зараз не дазволь мне
па-за бітваю застацца,
Застацца між апошніх не дазволь.

Ад год былых
параднасцяў завалы
У нетрах душ ці здолеем змагчы?..
Як часта мы спяшалі
ў запявалы,
На непрачулы заклік ідучы.

Як часта —
бурна славілі ў героях
Не тых, што поплеч крочылі ў баі.
Няхай жа сёння
з пільным неспакоем
Ульецца сэрца ў новыя страі.

Няхай на справы кліча найцяжкія...
Глухая сонь душу не запалонь!..
Завіце мяне, —
з вамі, маладыя,
Узносіць Рэвалюцыі Агонь!

### Пісьмо па-суседску

Дык вось якой ты пакланіўся тэме,
Дык вось куды, суседзе мой, глядзіш...
Жывеш сярод сваіх, як іншаземец,
Як іншаземец думаеш, маўчыш...

Як іншаземцу, усё табе не гэтак,
Не па душы ўсё,—фыркаеш, — не так.
І нават —
чым з калыскі быў сагрэты,
Сваё, ад маці, — здаў бы за пятак...

Цяпер мне зразумела, пане-браце,
Чаму цябе гнятуць так нашы дні.
Якое ўсім нашэптваеш пракляцце,
Якой жадаеш краю калатні.

Але на колькі ж ты перастараўся,
І як адстаў ад часу, як адстаў!
І ад зямліцы роднай адарваўся,
І да нябёсаў райскіх не дастаў.

Даўно памеркнуў ідал твой эдэмны,
Даўно не ў бляску й самы той Эдэм.
І сум па ўсім завоблачным —
будзь кемны! —
Зусім-зусім не новая між тэм!..

### Ці не пара...

Усё, усё — і натхненнасць талентаў
і полымнасць душ,
І радасць, і слёзы, — усіх сэрцаў
набытак, —
Кідаем на бітвы, на штурм —
за яду,
За ўмацаванне свайго дабрабыту.

За тлусты кавалак, за салодкі пірог,
За шэлест купюр, за кішэні тугія...
Аж енчыць хтось, бедны,
што покуль не змог
Здабыць сабе ўцехі, што маюць другія...

Людзі, людзі!
Няўжо мы яшчэ не стаміліся
за столькі гадоў
Ад соннай сытасці, ад прагі нажывы,
Ад перапоўненых страўнікаў,
ацяжэлых задоў,
Ад пухнучых падбародкаў,
упятых у жылы?!

Няўжо нам не сорамна
на мясныя пуды
Пераводзіць каштоўнасць матулінай
песні?
Мітусіцца,
Не чуючы сэрцам
бяды,
Што ненажэрнасць бяздушная крэсліць?!

Калі грымне пярун,
а мо нейкі абвал, —
Ці спахопімся ратаваць
Скарыну і Купалу? —
Ці пад заклікі скваплых хапуг-даставал
Ператворымся самі ў хапугаў памалу?

Будзем славіць не ўмельства
турботлівых рук,
А спрытнюгаў узносіць
сваім захапленнем...
Добрыя людзі!
Ці не пара нам згадаць сваёй жыткі
зару, —
Як страчаў яе
сэрцам палаючым
Ленін!..

І няўмольна і жорстка паўзла па зямлі,
Рэвалюцыі несла прысуд —
галадуха, —
Ды яе мы спынілі! І перамаглі!
Бо ядналіс
ленінскай сілаю духа!..

Тую сілу нам Ленін аддаў на вякі,
Каб жыццё сваё з ёю мы здолелі
ўзвысіць...
Мудрыя людзі!
Дык няўжо размяняем яе на пайкі?
І няўжо нашы сэрцы
яднання зракліся?!

Хіба ў светлую Мару спаволім хаду —
Пра вялікаснасць Песні забылі нібыта?!
Аддамо без задумы
за яду, за яду
І натхненне, і славу —
усіх сэрцаў набытак?!.

# ЯКІМ БЫЦЬ ФЕСТЫВАЛЮ

## Дыялог у канферэнц-зале Белсаўпрофа

Так званы «вал» у застойны перыяд даў аб сабе знаць і ў галіне культуры. У імкненні дамагчыся ледзь не стопрацэнтнага ахопу насельніцтва рознымі мерапрыемствамі губляўся такі важны момант, як клопат аб тым, каб найбольш таленавітыя прадстаўнікі народа маглі лепш раскрыць свае дараванні, больш культурна, а, галоўнае, актыўна, з карысцю правесці вольны час.

Гэтыя аспекты развіцця мастацкай самадзейнасці, народнай творчасці, культурна-масавай работы ў цэлым набываюць — павінны набываць — новы змест цяпер, калі пачынаецца III Усесаюзны фестываль народнай творчасці.

Для правядзення фестывалю створаны рэспубліканскі аргкамітэт. Яго ўзначаліў старшыня Белсаўпрофа У. І. Ганчарык. А ў складзе яго — прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, рэспубліканскага друку, устаноў культуры, творчых саюзаў, культасветработнікі.

Адбылося другое, на гэты раз рабочае пасяджэнне аргкамітэта. На яго, акрамя членаў камітэта, прадстаўнікоў яго творчых секцый, сакратароў абласных саветаў, прафсаюзаў, начальнікаў абласных упраўленняў культуры, былі запрошаны і кіраўнікі народных і ўзорных самадзейных калектываў рэспублікі. Запрошаны з тым, каб выслухаць іх пытанні, пажаданні, прапановы.

Як лепш правесці фестываль у рэспубліцы? Што зрабіць для таго, каб ён стаў не проста чарговым мерапрыемствам, а сапраўдным аглядам народных талентаў? Гэтыя пытанні былі на парадку дня пасяджэння, якое адкрыў У. І. Ганчарык.

Праграма асноўных мерапрыемстваў III Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці ў Беларускай ССР на 1988—1991 гг. разнастайная, змястоўная. Сярод іх — мерапрыемствы саюзнага значэння, напрыклад, фестываль мастацкай самадзейнасці сацыялістычных краін, гонар быць гаспадарамі якога выпаў мінчанам (красавік 1989 года). У маі 1990 года плануецца правесці ў Маскве свята духавой музыкі. У чэрвені-ліпені таго ж года лепшых з лепшых збярэ на свята харавога мастацтва Талін. У Кішынёве (ліпень 1990 года) пройдзе свята музычна-харэаграфічнага мастацтва, у Кіеве (жнівень 1990 года) — свята фальклору. Запланавана работа творчых майстэрань у Маскве, штогадовае правядзенне Усесаюзных тэлевізійных фотаконкусаў і аглядаў маладых выканаўцаў.

Багатая і рэспубліканская праграма. Тут — агляд прапаганды і распаўсюджання беларускай літаратуры «Квітней, мой край беларускі», свята народнай музыкі «Звіняць цымбалы», фестываль народнай музыкі і фальклору, выстаўкі народнай керамікі «Ганчарны круг-89», самадзейных мастакоў і майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, агляд сучасных вясельных абрадаў і выстаўка атрыбутыкі традыцыйных народных і сацыялістычных абрадаў, свята на «Пеўчым полі», запланаванае на ліпень 1991 года.

Абласныя, гарадскія, раённыя аргкамітэты па правядзенні фестывалю распрацоўваюць свае каляндарныя планы адпаведна з Палажэннем аб арганізацыі III Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, а таксама з улікам мясцовых умоў і магчымасцей.

З разгорнутым паведамленнем аб стане мастацкай самадзейнасці і народнай творчасці ў рэспубліцы, уроках папярэдняга, II Усесаюзнага фестывалю народнай творчасці, які прысвячаўся 70-годдзю Вялікага Кастрычніка, выступіў міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч. Ён звярнуў асаблівую ўвагу на тыя праблемы, якія неабходна вырашыць у бліжэйшы час. У выступленні была звернута, у прыватнасці, увага на ўзбагачэнне нацыянальнага рэпертуару. Цяпер, зазначыў прамоўца, калі ўзрасла цікавасць людзей да сваёй гісторыі, сваёй культуры, нельга мірыцца з тым, штс часта ў праграмах калектываў праходзяць выпадковыя творы, якія не маюць нічога агульнага з літаратурна-мастацкай і музычнай творчасцю беларускага народа.

Міністру культуры рэспублікі было зададзена шмат пытанняў. Тычыліся яны найперш далейшага развіцця мастацкай самадзейнасці і народнай творчасці ў рэспубліцы. Гаварылася, напрыклад, аб неабходнасці звярнуць увагу на цырковое, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. Аб тым, што агітацыйна-мастацкія брыгады ў сённяшнім выглядзе як жанр састарэлі. Аб тым, што ёсць неабходнасць пераглядзець палажэнне аб народным тэатры, практыку прысваення ганаровых званняў. Аб тым, што ці не час і саму назву «самадзейная творчасць» замяніць на «аматарскую творчасць». Ставіліся таксама пытанні аб рэальным заахвочванні народных тэатраў, аб матэрыяльным становішчы работнікаў культуры. На гэтыя і іншыя пытанні адказвалі міністр культуры Ю. М. Міхневіч, У. І. Ганчарык, іншыя работнікі Белсаўпрофа, члены аргкамітэта. У канферэнц-зале Белсаўпрофа ішоў дзелавы, часам востры дыялог прадстаўнікоў народнай творчасці з кіраўнікамі, адбылася зацікаўленая, карысная размова аб тым, якім быць фестывалю.

**НАШ КАР.**

# Экалогія поймы Іслачы

**Выязное пасяджэнне секцыі публіцыстыкі СП БССР**

Каля двух дзесяткаў піянерскіх лагераў, санаторыяў, прафілакторыяў і турбаз размясцілася ўздоўж ракі Іслач, што цячэ па валожынскай зямлі. Раён па сутнасці становіцца курортным. Тысячы людзей з усяго Савецкага Саюза прыязджаюць сюды на летні адпачынак. У сувязі з гэтым набываюць асаблівую важнасць пытанні стану экалогіі, а таксама добраўпарадкавання мястэчак Ракаў і Івянец, па вобліку якіх госці, здарэцца, мяркуюць пра ўсю Беларусь.

Пра гэта і гаварылася на выязным пашыраным пасяджэнні секцыі публіцыстыкі СП БССР, якое адбылося ў тых мясцінах.

Акрамя пісьменнікаў — Л. Леванові́ча, Л. Караічава, Г. Каржанеўскай, А. Масарэнкі, В. Рагойшы, В. Якавенкі, — у пасяджэнні ўдзельнічалі загадчык аддзела Дзяржкамітэта БССР па ахове прыроды І. Шкатулаў, начальнік упраўлення па будаўніцтве і архітэктуры аблвыканкома С. Іода, старшыня Беларускага аддзялення Літфонду СССР В. А. Вільтоўскі, кіраўнікі бліжэйшых калгасаў і саўгасаў, прадстаўнікі мясцовых раённага і сельскага Саветаў і іншых зацікаўленых устаноў арганізацый.

Л. Бажэнава, начальнік праектнага аддзела навукова-вытворчага аб'яднання «Цэнтр» пазнаёміла прысутных з планам стварэння ў раёне Ракава вялікай зоны адпачынку. Шматлікія атракцыёны, пляцоўкі для гульняў, музеі, заапарк, казачны гарадок павінны разнастаіць адпачынак як дзяцей, і дарослых. Уражвае размах і каштарыс будучага будаўніцтва — яно абыдзецца прыкладна ў 2,2 мільярда рублёў.

На пасяджэнні прагучалі галасы і ў падтрымку праекта, і супраць яго. Улічваючы багатыя культурныя традыцыі рэгіёна і яго славутыя мясціны (музей Ф. Дзяржынскага, магіла пачынальніка беларускай драматургіі В. Дуніна-Марцінкевіча, філіял музея народнага мастака А. Пупко, шматлікія помнікі архітэктуры), можна толькі вітаць новы прыток турыстаў і адпачываючых, які, вядома ж, з цягам часу будзе расці. З другога боку, ёсць небяспека для прыроды Ракава-Івянецкай зоны, асабліва для ракі Іслач, якая да нядаўняга часу лічылася ці не адной з самых чыстых рэк Беларусі. Гаварылася і пра адарванасць праекта ад нацыянальных традыцый, пра тое, што ідэі на паперы, як паказвае жыццё, бываюць куды прыгажэй і карысней, чым іх рэальнае ўвасабленне.

Удзельнікі пасяджэння азнаёміліся з мястэчкамі Ракаў і Івянец, наведалі фабрыку керамічных вырабаў, паглядзелі скульптуры і роспісы Апалінарыя Пупко, пахадзілі па берагах Іслачы, на якой плануецца ўзвядзенне каскаду плацін.

Заключная гаворка адбылася ў Доме творчасці «Іслач». Вёў яе член бюро секцыі публіцыстыкі Л. Левановіч. У выніку спрэчак і абмену думкамі, як адзначыла ў сваім выступленні загадчык аддзела культуры Мінскага абкома партыі А. Рабіцава, удзельнікі ўсё ж знайшлі агульную мову. Пісьменнікі прапанавалі стварыць пры аблвыканкоме грамадскую камісію па Ракава-Івянецкай зоне — з тым, каб размешчаныя тут дамы адпачынку маглі каардынаваць свае дзеянні.

Гаворка ішла і аб выданні гісторыка-краязнаўчага буклета «На Іслачы». Аўтарам яго будзе вядомы літаратуразнаўца В. Рагоша, які нарадзіўся ў гэтых мясцінах.

З разуменнем сітуацыі і ўвагай паставіліся да выказаных думак і прапаноў сакратар Валожынскага райкома партыі Н. Пташнік і намеснік старшыні райвыканкома В. Харук.

**НАШ КАР.**

НАШ ДУХОЎНЫ СВЕТ: ВЫТОКІ І АБСЯГІ

Ала СЯМЁНАВА

# «Храм наш агульны і светлы...»

ПАВОДЛЕ НЕПРАМОЎЛЕНАЙ ПРАМОВЫ

«Бачу голаў скрушнае званіцы...»
(Я. ЯНІШЧЫЦ)

НЕКАЛІ, мабыць, сышоўшы з добрага каня, які толькі што вынес яго на высокі пагорак,— конным і не зрушыш са стромага спуску—княжа Міндоўг прыпыніўся і зірнуў вакол. Відаць, пасвятлела ў яго на сэрцы — якая прыгажосць! Пагоркі, хмызнякі, лясы — далёка з гары бачна. Самае месца для чыннай забудовы. А чалавек ён быў, як вядома, дзяржаўны. Чалавек дзеяння. То і вырашыў рабіць тут замак. Ёсць, што праўда, і іншыя версіі наконт з'яўлення замка ў Навагрудку. Але, паводле «Хронікі» М. Стрыйкоўскага, было прыблізна так. А краявід з Замкавай гары прыўкрасны, як бы мовіў Уладзімір Сямёнавіч Караткевіч. Ім захаплялася не адно пакаленне. Навагрудскія ваколіцы натхнялі Адама Міцкевіча, Яна Чачота, Уладзіслава Сыракомлю... На пагорках Навагрудчыны быў фальварак тых самых Кастравіцкіх, з роду якіх выйшаў, як вядома, слынны французскі паэт Гіём Апалінэр. І хто ведае,— у вострым адчуванні гармоніі і дысгармоніі свету, уласцівым паэту, магчыма, ёсць патаемны адбітак той генетычнай усвядомленасці хараства, што было ў яго продкаў. (Наўрад ці хіжая прыземленасць меціла натуру той, што натхніла вялікага Міцкевіча на радкі: «Не можа загінуць краіна, дзе жоны і дзевы такія...» Верш быў прысвечаны прабабцы Апалінэра Людвіцы Кастравіцкай). А ў Янкі Брыля то Алесь Руневіч з «Птушак і гнёздаў» падымаецца са светлатою ў душы сцежкай-спіраллю на пагорак Міцкевіча, то сам апавядальнік згадвае летуценнае хараство бярозавага тунеля па дарозе з Навагрудка ў Баранавічы. Колькі ж тых, што ніяк не выслoвілі сваю любоў да гэтых мясцін, ажно прыгажосць тамтэйшая жывіла іх жыццё, пакідала ўлоўна-няўлоўны адбітак у свядомасці. Краявіды, тыя, што яшчэ не вельмі даўно, ужо ў 50—60-я гады нашага стагоддзя, так і прасіліся на панараміраванне ў які відавы фільм. І цяпер хараство амаль захавалася. Гэтае **амаль!** Амаль што слова, як згадваў адзін з персанажаў Андрэя Макаёнка. Не, дзякуй лёсу, пакуль што ніякія глабальныя катаклізмы не кранулі гэты куток Беларусі. А ад замка засталіся руіны — дзве высакародныя вежы—не на нашай памяці, тры стагоддзі таму назад. Аднак... Сёння таго бярозавага тунеля на баранавіцкім гасцінцы ўжо няма, вырубілі ўшчэнт. І хаця пагоркі навагрудскіх ваколіц не вельмі кранулі заваёвы цывілізацыі, ажно знакі яе, што зусім не стасуюцца да атачэння гістарычнага помніка, то тут, то там аказваюць сябе. Так і рэжа вока высокая труба — не хімзавода, не сталеліцейнага камбіната, усяго толькі масла-завода. Ажно і труба гэтая, і ўсе забудовы прадпрыемства разбураюць прыродную гармонію ландшафту. Дарэчы, усе вытворчыя ўстановы горада месцяцца ў асноўным у заходняй, не гістарычнай яго ўскраіне. Чаму б і гэтаму прадпрыемству не знайсці было пляц там?

Магу сабе ўявіць, як нехта тут ускіне брыво. Тут столькі сацыяльных, экалагічных праблем, ад Чарнобыля не ачомаемся — сапраўды бяда,— а тут, бачыце, краявід сапсавалі. Аднак усё, у тым ліку і вялікія беды,—пачынаецца з непрадугледжаных дробязей. Пабудавалі хімкамбінат у 8-мі кіламетрах ад старажытнага Полацка, ад пракаветнай Сафійкі. Экалагічная сітуацыя ў Наваполацку цяпер вядома ўсім, пра гэта вялася гаворка і на старонках «ЛіМа». Чамусьці не знайшлося лепшага месца для азотна-тукавага камбіната, як прадмесце старажытнай нашай Гародні. У тым жа Навагрудку ў былым Дамініканскім саборы зрабілі спачатку склад, потым яшчэ нешта, не менш «рэпрэзентатыўнае», урэшце — не ўгледзелі — шуганула полымя, добра папрацавала (а там жа якія працы беларускіх разьбяроў былі!). Цяпер — збіраюцца рэстаўраваць...

Агульны абрыс гістарычнай часткі горада не змяніўся, але аблічча — парушылася. Звяліся сажалкі, што раней былі каля многіх катэджаў, сякера добра папрацавала — паменела шыпшыны, бэзу, чаромхі, непараўнаных навагрудскіх півоняў-каменак. Недзе з сярэдзіны 50-х па розных прычынах змяніліся гаспадары прыватных хацін — куплялі іх людзі часам гаспадарлівыя, часам не вельмі, але зусім чужыя гарадской і местачковай беларускай культуры. І секлі не толькі дзікую ружу — секлі і маліннікі, і слівы, якія вырошчвалі прысадамі, і альтанкі з хмелю ці плюшчу, лапікі трускалак — садзілі бульбу і гуркі. Патрэбная гародніна. Але ж па шляхетнай і шляхецкай завядзёнцы ў садзе павінна было быць усяго патроху, нават калі ты бедны, як касцельны пацук. І бульба, і гурочкі, і цыбуля, але ж і півоні, і флёксы, і бэз — для акрасы душы. І трускалкі, што спелымі клаліся ў прыгожы парцэляновы кошык, аздабляліся лістамі па краях — не інакш. Эстэтычныя ўсхліпы тутэйшай жыхаркі? Не, напамін пра традыцыі, што былі неад'емнай часткай гарадской беларускай культуры. Мецілі і своеасаблівасць горада, надавалі толькі яму ўласцівае хараство, індывідуальнасць. Цяпер заходняя частка горада нагадвае звычайны мікрараён — зручна, кватэры з выгодамі... Аднак аблічча **гістарычнага** горада непапраўна страчана. Усходняя частка засталася занятай індывідуальнай збудовай, з тымі стратамі, пра якія ішла толькі што гаворка, але ўсё ж засталася — так хочацца спадзявацца, што не пакуль што.

Вось што дзіўна — вайна мала што пакінула нам не зруйнаваным. І, здавалася б, мы павінны кожны будынак, кожную ацалелую цагліну, тым больш калі веку ім некалькі стагоддзяў, шанаваць, як шануюць бацькоў сваіх жывых пасля скрушных бядот удзячныя дзеці, берагчы, як беражэ маці сваіх дзяцей.

«Не пагарджаць святым сваім мінулым...», — перадаваў нам свой боль у апошняй кнізе Уладзімір Караткевіч. Не пагарджаць...

Неяк прачыталася, што ў Шатландыі дзяржава плаціць грошы фермерам за тое, каб не парушалі краявід. Праўда, хто яго ведае, як у Вялікабрытаніі, дзе месціцца, як вядома, і Шатландскае нагор'е, спалучаюцца эстэтычныя інтарэсы і будаўніцтва ваенных баз. Аднак гаворка пра тое, што адбываецца ў нас. Што пакінем мы нашчадкам? Спадкаемцам нашым? Выхаванне натурай, прыродай і «другой» прыродай, усім, што зроблена чалавекам, інакш кажучы — хараством, — адбываецца ж неўпрыкметку, само па сабе, асабліва ў маленстве. Малы чалавек глядзіць на гэты свет і неўсвядомлена далучаецца да яго красы.

«Мне здаецца, нельга быць суцэльнай пасрэднасцю, калі вы выхоўваецеся на набярэжных Парыжа, насупраць Луўра і Цюільры, ля палаца Мазарыні і слаўнай ракі Сены, якая цячэ паміж вялікімі і малымі вежамі, шпіцамі званіц». Гэта словы Анатоля Франса. Не будзем праводзіць архітэктурныя паралелі. Звернем увагу на гэтае — «не можа быць суцэльнай пасрэднасцю...». Бо кожны прыгожы краявід, лукаваты бераг ракі, важкае хараство вежаў Мірскага замка, цнатлівы спакой Полацкай Сафійкі, высакародная вытанчанасць касцёла ў Ішкальдзі, прадуманая гармонія архітэктурна-пейзажнага ансамбля ў Нясвіжы — хіба яны не паўплывалі на эстэтычны густ, на духоўны свет шматлікіх пакаленняў? Хіба не выхоўвалі іх? Настаўніца прырода і геній умельства народнага?

Апошнім часам шмат увагі надаецца спадчыне — архітэктурнай, мастацкай, літаратурнай. Перабудова ідзе шырокім фронтам. Спрабуе вярнуць страчанае, захаваць духоўныя і матэрыяльныя набыткі народа. Дэмакратызацыя, галоснасць нялёгка, але ўваходзяць у наша жыццё. Ну, вось і рэферэндум паводле мэтазгоднасці забудоў і пераўтварэнняў на тэрыторыі парку імя Горкага ў Мінску скончыўся, здаецца, прыняццем разумнага рашэння: не чапаць гожага і рэльефам сваім, і надзейнай лістотай немаладзёнаў-дрэў старога парку. Вабіць ён і дагледжанасцю, і «цудам» цэлых ліхтароў, і традыцыйным ценем алей. Ідуць сюды, і ў парк 30-годдзя Перамогі, што ўжо выгадаваўся ў добры ансамбль са старым паркам, людзі. Ідуць і едуць з голых сваіх мікрараёнаў. Там, праўда, таксама нешта спрабуюць рабіць. Але. Зноў тое ж сакраментальнае «але». Скажам, у раёне праспекта Пушкіна ёсць маладзенечкі, сімпатычны ландшафтавы парк. Ажно ценю ў ім не знойдзеш: ёсць гаечкі, купачкі дрэў, нават сцяжынкі здароўя, з густам зроблены басейн-сажалка, а вось алей, як у рэгулярным парку, няма. Затое ёсць прыгожыя скульптуры, што натуральна, зноў жа з густам раскіданы па пагорках парку. Задумана ўсё вельмі хораша. А вось пра тыя «але». Пакуль гэты парк у сапраўдную моц возьмецца — прыроду не прыспешыш. І ці варта было займацца сізіфавай працай з другога боку таго ж праспекта? Была тут прыгожая вёсачка з нявысветленым (для мяне прынамсі) генезісам назвы: Цівалі. Колькі было там бэзу, чаромхі, ліп... Усё гэта спляжылі разам з будынкамі, потым садзілі тут нейкія дубчыкі (трэба разумець, гэта грошы каштавала), зараз іх таксама зводзяць у небыт: будуюць. Будынкі патрэбныя, установы сур'ёзныя. Але ці зашкодзіў бы такому вялікаму мікрараёну яшчэ адзін лапік зялёніва? Не ведаю, які лёс наканаваны раслінагадавальніку, што месціцца таксама тут, непадалёк, а пакуль што ён «паспяхова» засмечваецца, руйнуецца і з усіх бакоў на яго вядуць наступ усё новыя і новыя карабкі будоўляў. Новае жытло людзям — тыя самыя абавязковыя асобныя кватэры. Трэба. Але... Неяк выпадкова на праспекце Машэрава давялося пачуць захапленне аднаго канадца: якая прастора, у нас гэтага няма. То чаму мы абавязкова тут хочам ісці ўпоравень? Шчыльненька падагнаць адзін гмах да другога, загадзя агаліўшы і зруйнаваўшы ўсё навокал? Не нова? На жаль. Але ж гаворкі ідуць, а мала што змяняецца. На жаль.

Заўсёды з зайздрасцю бачу, як нашы суседзі ў Прыбалтыцы, будуючы, пакідаюць нават старыя, засохлыя дрэвы, прадумана ўлічваючы іх вобразную графіку ў канструкцыі новай забудовы. А мы шах-мах —і рубанём казачныя прысады па Ракаўскай шашы — і ані знаку. А ці мала тых прысад па рэспубліцы, па ўсёй краіне? Ці мала пабітых ліхтароў у парках, стаптаных газонаў, засмечаных сквераў? Адкуль гэты напорны, баявіты вандалізм? Скульптура? А мы ўквэцаем яе так, што сам стваральнік не пазнае. Дзіця лезе на галаву (у прамым сэнсе), на галаву чароўнай маці з сынам (скульптура ў памянёным парку) — дык не кувалдай жа яно гахае, хай пабавіцца. Штангі ўладкавалі на сцяжыне здароўя — а мы іх грамадой, грамадой — во, і выгнулі. А не — дык і ломікам можна паспрабаваць. Лужкоў тут — хоць раскашся. Во і кінемся на тую мураву — чым не пляж? Лежбішча, лежня. То і ўсыпалі ў першы ж цёплы дзень усе газоны. Стопчуць траву, замест маляўнічых лужкоў — лобнае месца...

Вуліцу Прытыцкага агалілі— станцыю метро робяць, дрэвы адсюль перасадзілі, а больш справядліва будзе сказаць, утыкнулі, на бульвар па вуліцы Данілы Сердзіча, перакапалі ўсё, засмецілі як ёсць. Так і засталося на лета — знявечаныя газоны, зруйнаваная алея. Былыя кветнікі — не пазнаць, нават трава на іх не расце. Ну, а самі жыхары вуліцы высільваюцца як мага, каб стаптаць ушчэнт тое, што засталося, сцежак не пералічыць. І нібыта так яно і трэба. Затое святы вуліцы праводзяцца. Акуратна. Хацелася б спытаць — хто ж святкуе ў сваім доме, не прыбраўшы і не прыбраўшыся? Але... Святкуем. Аж рэха ідзе. А хіба ж адна такая вуліца ў Мінску? У іншых гарадах? Зноў-такі — можа, дробязі? Але гэта элементарная адсутнасць элементарнай культуры. Да якой не прывучаюць ні ў дзіцячым садзе, ні ў школе, пра якую не гавораць па тэлебачанні, хіба часам пішуць у газетах. А чаму б пасля праграмы «Час» або пасля «Навін» нашага Беларускага ТБ не ўчыняць такі невялікі этычны «лікбез»? З «замалёўкамі» з натуры? А галоўнае — чаму не ўзаконіць пакаранне, і строгае? Прывучылі ж у цэнтры Мінска пераходзіць вуліцу толькі на зялёнае святло. Дагледжанай дабрачыннасці Парыжа, як сведчыць газета «Праўда» (26 лютага 1988 г.), вельмі спрыяе артыкул 257 крымінальнага кодэкса Францыі. Злачынную гарэзію добра ахалоджвае перспектыва 2 год турмы або 30 тысяч франкаў штрафу. Ды і нават мінімальная мера — месяц турмы або 500 франкаў штрафу — таксама не вельмі натхняюць. І ліхтары — цэлыя, цуд і дзіва для нашых суайчыннікаў. Мы, канечне, за выхаванне, за самавыхаванне. Але... Недахоп ці, кажучы па шчырасці, адсутнасць культуры, ці калі зусім без эўфемізмаў, дрымучае хамства — трэба караць. Досыць сляпой лаяльнасці, якая гадуе нахабства, досыць мяккацелай паблажлівасці, якая не чуе лаянкі, не зважае на мярзотнікаў, і п'яных, і цвярозых. Усё пачынаецца з дробязей.

З уступак. Не адстаялі — знішчылі Нямігу. На месцы старажытнага замчышча паставілі досыць шэры і зусім не разлічаны на перспектыву карабок, будучую станцыю метро. Другая чарга лініі метро вядзецца пад святая святых старажытнага Мінска — Верхнім горадам, ужо дэфармаваны будынак «Мінскпраекта». Дарэчы, на маю асабістую думку, з довадаў, якія прыводзілі ў карысць гэтага варыянта галоўны архітэктар горада Е. М. Кавалёўскі і былы кіраўнік групы транспарту «Мінскпраекта», сённяшні супрацоўнік Дзяржбуда БССР В. Н. Вараксін, пераканаўчым быў адзін — ляснулі мільёны, будаўніцтва распачата («Вячэрні Мінск», 12, 14 мая 1988 г.). Астатнія ж доказы — самая вялікая плынь пасажыраў у параўнанні з трыма іншымі варыянтамі, па дадзеных паводле 1972 года, калі на плошчы 8 Сакавіка была аўтастанцыя і якой даўно няма; зручнасць — з аддаленых раёнаў будуць прыязджаць напрасткі ў Верхні горад — культурны і гандлёвы цэнтр; немагчымасць прыняць нейкі іншы варыянт, — мала пераконваюць. Вялікая плынь пасажыраў была за кошт аўтастанцыі; да Верхняга горада ад станцыі метро Кастрычніцкая — пяць хвілін пешшу самай павольнай хадою; можна было прыняць і іншыя варыянты будаўніцтва, не заглыбляючыся ў грунт, не зносячы будынкаў, па самой вуліцы, як гэта рабілася на Ленінскім праспекце. Я не спецыяліст, але, мне здаецца, наўрад ці могуць даць будаўнікі метро пэўныя гарантыі, а тым больш падтрымаць іх рэальным выкананнем. І ў выступленні Вараксіна (12 мая) ёсць адна вельмі красамоўная фраза: «Калі нават уявіць сабе горшае, што на некаторых будынках з'явяцца новыя расколіны пры праходцы тунэлю, дык і гэта можна паправіць. **Няма ж такіх будынкаў, якія нельга аднавіць».** Так усё проста — возьмем ды і адновім. Хіба можна вярнуць мінулыя стагоддзі? А калі нават скарыстаць логіку мыслення паважанага адміністратара ад індустрыі транспарту, дык якія мільёны гэта будзе каштаваць? Мільёны — на падробку. Бо нават каменне даўніны — не мае цаны. Як не мае цаны культура. Ну, а якая трываласць гарантый — пра тое сведчаць рэстаўрацыйныя работы, што ўжо вядуцца на плошчы Перамогі, дзе пралягла першая лінія метро.

...А хіба не пярэчыць усім уяўленням пра функцыянальна-прасторавыя ўзаемасувязі ў гістарычнай частцы горада ўзвядзенне цяжкога гмаха, што паводле ўсіх высноў гігантаманіі і безгустоўшчыны незалежна-высакамерна-бетонна сунецца ў неба на Цэнтральнай плошчы? Пахмурна-панылая памылка архітэктараў пад назвай Палаца рэспублікі яшчэ і цалкам заслоніць ад нас Верхні горад і дамы XIX стагоддзя, своеасаблівыя сваім утульным, немудрагелістым каларытам, дарагія нам памяццю сваёй — дом, дзе жыў Манюшка, дзе месціўся Марцінкевіч... Ці не будуецца тут старанна архітэктурны эквівалент

(Працяг на стар. 6—7).

 

## ЧЫТАЮЧЫ ЧАСОПІСЫ

# Той даўні, нязмоўчны боль

Яшчэ адзін мастацкі дакумент, які даносіць да кожнага суровую праўду аб сталінізме, прыйшоў да чытача. Дакументальная аповесць А. Қавалёва «Звон мой — праўда», што цэлых дваццаць пяць гадоў чакала свайго абнародавання, нарэшце змешчана ў шостым нумары часопіса «Нёман». Імя яе аўтара больш-менш знаёма па публікацыях у газеце «Звязда», прысвечаных рэпрэсіям у трыццатыя гады. Тым не менш, ёсць патрэба нагадаць яго біяграфію.

Апанас Фёдаравіч Қавалёў, якому цяпер восемдзесят пяць, родам з вёскі Лошніца былога Барысаўскага павета. Быў байцом часцей асобага прызначэння, сакратаром парткома Віцебскай швейнай фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», інструктарам, намеснікам загадчыка аддзела прапаганды і культуры, першым сакратаром Віцебскага гаркома партыі. З верасня 1937 года з'яўляўся Старшынёй Савета Народных Қамісараў Беларускай ССР, выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР і адначасова дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. З 25 студзеня 1939 года... Аб гэтым, уласна кажучы, і аповесць А. Қавалёва.

Яго, як і многіх іншых, узялі нечакана. Прыйшоўшы познім вечарам дахаты — кожны кіраўнік вымушаны быў працаваць па прыкладу «правадыра ўсіх народаў», — хуценька распрануўся і адразу заснуў. Што адбылося далей, падобна на страшны сон: «Прачнуўся ад моцнага штуршка. Қаля ложка стаялі тры чалавекі, апранутыя ў шынялі. Двое схапілі мяне за рукі, трэці пачаў шукаць пад падушкай, палез пад сяннік. Астатнія прышэльцы стоўпіліся хто ля дзвярэй, хто ля акна.

— Дзе зброя?

— У мяне няма зброі.

— Хлусіш! Дзе зброя? — сярдзіта закрычаў той, хто абшукваў». (Пераклад тут і далей мой — **А. М.**).

Сцэнарый вядомы да драбніц па ўспамінах іншых людзей, хто прайшоў праз пекла берыеўшчыны і цанаваўшчыны і нейкім цудам застаўся жыць. Дарэчы, і А. Қавалёву быў прад'яўлены ордэр на арышт, падпісаны не кім-небудзь, а самім Цанавам. У гэтым, відаць, сказалася значнасць асобы арыштаванага.

Далей адбывалася тое, што не ўкладваецца ні ў якія рамкі. У руках энкэвэдзіста апынуўся сшытак старэйшага сына А. Қавалёва, школьніка: «У лейтэнанта свецяцца вочы.

— Што гэта за ўмоўныя знакі? — тыцкаючы пальцам у сшытак, пытаецца ў мяне лейтэнант.

— Вы ж бачыце, што гэта вучнёўскі сшытак, а дзіцячыя каракулі...

— Расказвай казкі! Чаму ён схаваны ў стол?.. Разбярэмся ў іншым месцы! — сказаў лейтэнант».

Страшна? Так, бо гэтыя «ўмоўныя знакі» маглі каштаваць чалавеку жыцця. Смешна? Не да ўсмешак было тым, каго кідалі ў засценкі, апраўдваючы яўную бяздоказнасць абвінавачванняў цынічным прызнаннем: «Вопытны вораг, ніякіх слядоў не пакінуў». Пасля гэтага ў час допытаў таксама цынічна гучалі вядомыя горкаўскія словы: «Қалі вораг не здаецца, яго знішчаюць». Што да ворагаў, дык іх рабіць умелі. Таго ж А. Қавалёва абвінавачвалі і ў нацдэмаўшчыне, і ў тым, што збіраўся арганізаваць забойства таварыша Варашылава. І любой цаной, самымі садысцкімі прыёмамі дабіваліся прызнанняў.

Якія гэта былі прыёмы, нацяжка здагадацца, калі прыгадаць, што многія вопытныя падпольшчыкі, якія прайшлі не праз адзін вядомы засценак, у энкэвэдзістаў «расколваліся» часам у першы ж дзень, як сталася гэта, напрыклад, з В. Шаранговічам, А. Қавалёў, перасільваючы даўні боль, які колькі ўжо гадоў не дае спакою па начах, падрабязна раскрывае механізм прадуманага, сістэматызаванага знішчэння чалавека ў чалавеку. Ад звычайнага запалохвання да дзікіх катаванняў. Называюцца імёны садыстаў, што з дня ў дзень, а, правільней, з ночы ў ноч вялі допыты. Лейтэнант Фёдараў, старшы следчы Лебедзеў, начальнік следчай часці Соцікаў, следчы Ісаеў... Быццм з самога пекла выхаплены эпізоды, за кожным з якіх і фізічныя, і духоўныя пакуты. Здаецца, усё было падпачалена таму, каб падавіць псіхіку арыштаваных, ператварыць чалавека ў нешта агіднае, што варта жалю і абавязкова, любой цаной хоча выжыць.

Мы не маем маральнага права асуджаць тых, хто не вытрымаў пакут і ва ўсім «прызнаўся», або, «прызнаўшыся» сам, цягнуў за сабой іншых. Тым большая наша павага да людзей, якія, як А. Қавалёў, нягледзячы ні на што, не падпісалі абвінавачанняў. І дзеля памяці першых, загінуўшых, і дзеля павагі да другіх мы ніколі не павінны забываць звяроў у чалавечым вобліку, якія прыкрываліся высокімі разважаннямі аб сусветнай рэвалюцыі, гаварылі аб любві да народа, а самі знішчалі людзей — і фізічна, і маральна.

Аднойчы ў камеры А. Қавалёву давялося прачытаць на сцяне прызнанне аднаго з пакутнікаў: «Чым больш будзе арыштаваных у турме, тым лепш, хутчэй возьмуцца за розум...» Хто гэты чалавек, які дайшоў да такой жудаснай «філасофіі», нам ніколі не даведацца.

Затое ў аповесці А. Қавалёва ёсць нямала прозвішчаў іншых, каго раптоўна зрабілі «ворагамі народа». Пісьменнік і журналіст У. Мяжэвіч, радыёжурналіст Ю. Такарчук, просты селянін Цімох Кульгавы, адысея якога нават на фоне ўсеагульных парушэнняў сацыялістычнай законнасці выглядае асабліва недарэчнай. Падумаць толькі! Қалі Цімоха арыштавалі, дык сталася так, што, праходзячы па кладцы, яго канваір зваліўся ў раку. Цімох з цяжкасцю выратаваў яго, завёў да родзіча, абагрэў, а сам пайшоў у раён і пра ўсё расказаў. І што, думаеце, пасля ўсяго было? Да ранейшага абвінавачання ў агітацыі супраць Савецкай улады дадалося новае: «...хацеў утапіць свайго вартавога, абяззброіў яго і кінуў у раку». Цімоху Кульгаваму, можна сказаць, «пашанцавала» — усяго толькі нейкія пяць гадоў турмы за сваё «злачынства» атрымаў. А магло быць куды горш...

«Дзе цяпер гэтыя лебедзевы, ісаевы, соцікавы? Ці грызе сум-

# «ХРАМ НАШ АГУЛЬНЫ І СВЕТЛЫ...»

**(Працяг. Пачатак на стар. 5).**

таму помніку, што так, дзякуй лёсу, і не ўздыбіўся на Паклоннай гары ў Маскве? І ці не выглядае дэкарацыяй адрэстаўрыраванае Траецкае прадмесце, пазбаўленае гістарычнага атачэння, прыблізна так, як стары Арбат у Маскве, заціснуты бетонна-шкляным Калінінскім праспектам? Канечне, добра, што хаця гэты невялічкі кавалачак, выспа рэгенерыраванай старажытнасці ёсць у горадзе. Але, зноў «але». Няўжо, калі была такая пільная неабходнасць узводзіць жылы дом побач з рэстаранам «Журавінка», дык хіба нельга было не ўзводзіць шэра-доўгі, безаблічны маналіт, а збудаваць некалькі стылізаваных дамкоў — накшталт тых, што ў Траецкім прадмесці?

Верхні горад будзе замкнёны з усіх бакоў забудовай, што ніяк не стасуецца са стылем архітэктуры старога горада. У такіх выпадках нам, як правіла, тлумачаць — будоўля распачата, выдаткаваны сродкі. Такая зручная вымоўка. А цікава — якія сродкі ляснулі, калі руйнаваўся квартал самавітай, цаглянай кладкі, пасляваеннай забудовы на былой вуліцы Савецкай? І ці так край патрэбная была пляскатая плошча? Плошча ж была. Пры нашым дэфіцыце жылля спляжылі дамы грунтоўнай, надзейнай забудовы. У цэнтры горада.

...У 1923 г. Аляксандр Бенуа, буйны рускі мастак, бліскучы і шматгранны крытык, удзельнік стварэння новага, Дзяржаўнага Эрмітажа зазначаў: «Усе мы былі сведкамі той незвычайнай з'явы, што найбольш крытычныя моманты рускай рэвалюцыі прайшлі амаль без страт, што датычыць гістарычных і мастацкіх помнікаў... Нягледзячы на поўны пераварот... гісторык старога ладу Расіі зможа вывучаць асаблівасці яго ў такой паўнаце, якая невядома Францыі, што пацярпела ў найвышэйшай ступені ад катаклізму вялікай рэвалюцыі». Вядзе ён гаворку, праўда, пра палацы-ансамблі Пецярбурга і яго ваколіц, аднак агульны накірунак дзеянняў Савецкай улады быў адзіны. І на Беларусі таксама «на чале наноў узнікшых інстытутаў аховы помнікаў сталі людзі, якія свядома ставіліся да сваёй задачы, суцэльна да гэтага падрыхтаваныя і энергічныя...»

На жаль, як і многія іншыя заваёвы рэвалюцыі, пазней мы не змаглі захаваць і свядома асветніцкага стаўлення да культуры сваёй, да архітэктуры сваіх гарадоў, да ўсяго, што стварала агульнае іх гістарычнае аблічча.

Мо цяпер, у эпоху перабудовы, ці не самы момант засцерагчыся ад новых памылак?

Каб плыў судоў
уратавальны дым, —
А родны край знікаў навекі
ў хвалях —
Я б лепей згінуў з ім, з яго
апошнім жалем,
Як жыў і мучыўся бязмерна
з ім.

(У. КАРАТКЕВІЧ)

Ці ж не павінны мы сёння спавядаць такі максімалізм? Не толькі ў дачыненні да лёсу роднага краю. А з нагоды ўсіх «драбніц», з якіх вынікае вялікае ліха?

Дарэчы, вяртаючыся да выдаткаў. А чаму б нам не пераняць вопыт, скажам, Польшчы? Не ўчыніць грамадскую скарбонку? Некалі прафесар М. М. Улашчык разважаў, што калі б мы паспрабавалі распаўсюдзіць вопыт грамадскіх скарбонак, каб сабраць сродкі для ўзнаўлення помнікаў старажытнасці, дык ён, скажам, на рэстаўрацыю Мірскага замка выдаткаваў бы тры свае прафесарскія зарплаты. Не так мала.

М. М. Улашчыка, на жаль, ужо няма сярод нас. Але ёсць жывыя. Ёсць Беларускі фонд культуры. І ў ім камісія па захаванні гістарычнай спадчыны. Пакуль яшчэ не зусім позна — ці не варта паспрабаваць **усе способы** захавання нашай архітэктурнай спадчыны?

«І мовы залатая сталь...».
(У. КАРАТКЕВІЧ)

Як вы лічыце, пра што можна спрачацца ў Фларэнцыі? Пра лёс Мікельанджэла? У чым больш выявіўся хітрамудры розум Макіявелі — у «Гісторыі Фларэнцыі» ці ў «Дыялогу пра мову»? Дыялог пра мову быў, але — не пра італьянскую. Немалады чалавек стандартызавана-гарадскога выгляду — акуляры, барада, джынсы — безапеляцыйна абвясціў, даведаўшыся, што я з Беларусі: беларусы — не нацыя, усе мы браты-славяне, мова — не мова, так, дыялект. Прынамсі, на яго асвечаны розум, так можна весці гаворку пра ўральскую або кубанскую мову. Чалавек быў уласным карэспандэнтам па Сахаліне ведамаснага сталічнага друкаванага органа — былі ў яго, дарэчы, як неаспрэчнае пацвярджэнне гэтай прыналежнасці, незлічонай колькасці камплекты — значок і блакнот з грыфам «Лесная промышленность», якія ён з высокай сваёй ласкі раздаваў і прэзентаваў усюды. Дык вось — чалавек той атрымаў адукацыю ў Рызе, жыў недзе ў Сярэдняй Расіі, урэшце трапіў на Сахалін. Само па сабе гэта зусім не крымінал, нармальны лёс журналіста. Але... Зноў яно, але. У такіх абставінах чалавек па-сапраўднаму культурны набывае і веды, і прафесійны гарт, і павагу да людзей розных нацыянальнасцей, да культуры і мовы гэтых людзей. Некаторыя— вось гэтае, пагардліва-фанабэрлівае стаўленне «грамадзяніна свету» з добрым-нядобрым прысмакам, здавалася б, зусім забытага шавінізму. Қалі адрас — «не дом и не улица», калі блізка-роднаснае ўспрымаецца не як самастойнае і своеасаблівае, а як адхіленне ад таго, што яму, усяведу-самаеду, вядома. Аднак — гэта і горкае пацвярджэнне нашай агульнай бяды, нашай трагедыі, пра якую мы ўрэшце загаварылі ўголас: на Беларусі рэдка дзе пачуеш сапраўдную беларускую мову. Колькі разоў даводзілася чуць ад прыезджых пытанне: «Чаму ў вас толькі радыё гаворыць па-беларуску?» Ну, цяпер яшчэ тэлебачанне, і тое не заўсёды. І ўсе мы ведаем пра тую «трасянку», на якой учарашні вясковец (а іх зараз большасць насельніцтва беларускіх гарадоў) гаворыць. Стварыўся сацыякультурны тып, што як след не ведае ні рускай, ні беларускай мовы. Прыехаўшы ў горад, былыя вясковыя хлопцы і дзяўчаты, трохі асвойтаўшыся тут, пачынаюць разумець, што ў сённяшніх нашых умовах карыстацца беларускай мовай, па сутнасці, няма дзе. У школе — неабавязкова, у сярэдніх і вышэйшых навучальных установах — тым больш (хіба што на беларускім аддзяленні філфака, сённяшнія эксперыменты асобных выкладчыкаў — пакуль што эксперыменты), ва ўстановах забыліся, калі тое было, каб беларуская мова тут гучала. На прадпрыемствах — таксама. І пачынаюць яны пахапліва ўжываць рускую мову — з памылкамі, з семантычнымі пярэкрутамі, і, безумоўна, з лексічнымі ўкрапінамі з беларускай. Тыя, хто мовы не ведае, прыезджыя і тыя, хто даўно і трывала атабарыўся на Беларусі, не лічачы патрэбным хаця б збольшага даведацца мовы і культуры яе, лічаць гэтае неахайнае набліжэнне да рускай за беларускую мову. А, як вядома, няведанне заўсёды спрые высакамернаму абагульненню. Колькі разоў даводзілася спрачацца са сцвярджэннямі накшталт: «Все культурные люди (у такіх выпадках абавязкова сябе лічаць авангардам культуры) не относятся серьезно к белорусскому языку». Аднак — не ведаю, ці большасць, але вельмі многа і такіх, хто, пачуўшы беларускае слова, загараюцца тым добрым агнём, што завецца прагай ведаў і культуры. Колькі разоў даводзілася сустракацца з бібліятэкарамі, кнігалюбамі, з кнігагандлярамі... Не па Бюро прапаганды, выключна на грамадскіх пачатках, часам па службовых абавязках, часам — па дамоўленасці, афіцыйна-неафіцыйнай. Увогуле апошнім часам беларускія работнікі культуры, друку, тэлебачання і радыёвяшчання, кнігагандлю робяць энергічныя намаганні па прапагандзе беларускага слова — прэм'еры кніг, лекцыі, кніжныя кірмашы, сустрэчы з пісьменнікамі... Але... на прэм'еры кнігі можна атрымаць эмацыянальны штуршок да рацыянальнага руху і нельга вывучыць мову. Тут патрэбна шырокая, разумна распрацаваная праграма па вывучэнні мовы, абавязковае вывучэнне яе ў дзіцячым садзе, школе, сярэдніх і вышэйшых навучальных установах, падрыхтоўка кадраў настаўнікаў, стварэнне гурткоў па вывучэнні мовы. І, галоўнае, ажыццяўленне на справе статусу дзяржаўнай мовы. Эмоцыі павінны саступіць месца рэальным справам.

Гэта неабходна для ўсёй беларускай культуры. Для літаратуры — найперш. Узровень літаратуры абумоўлівае ўзровень чытача. Але ж і ўзровень чытача шмат у чым вызначае ўзровень літаратуры. На Беларусі шмат хто з людзей адукаваных, падрыхтаваных да сур'ёзнага чытання — у тым ліку тых, хто досыць няблага валодае замежнымі мовамі (з'явіўся ўжо такі кантынгент), не ведаюць роднай мовы. А, скажам, інтэлектуальная проза, іранічная проза, літаратурны парадокс — яны вымагаюць у чытача і здольнасці да асацыятыўнага мыслення, і ўмення ўспрымаць умоўнае пісьмо, іншасказанні, разумець зрушэнні часава-прасторавых прапорцый. Не толькі агульнакультурнай падрыхтоўкі, але і валодання мовай не на будзённа-абытоўленым узроўні.

Гэта ўсё — не нацыянальныя амбіцыі, гэта разуменне рэальных пагроз і рэальных магчымасцей. **Ад нас шмат у** чым залежыць, ці зберажом мы «і продкаў запавет, і мовы залатую сталь, і нашых дум сусвет» (У. Қараткевіч).

«Так песня — долю
нараджае...»
(Я. ЯНІШЧЫЦ)

Гады са два назад прайшоў фільм Сколы «Баль». Замалёўкі часу. Часоў. Музычна-танцавальныя замалёўкі, пачынаючы недзе з 20—30-х гадоў. Модныя мелодыі і іх рытмічна-рухавыя інтэрпрэтацыі. Але — і псіхалагічныя замалёўкі, карціны но-



 

ленне іх чорныя душы? Перад кім хваляцца яны сваімі «заслугамі»? — болем вырываецца ў аўтара аповесці. Магчыма, многія з іх, калі не паспелі памерці сваёй смерцю, і па сённяшні дзень жывуць. Ды толькі ці далі ім права на жыццё іхнія больш высокія начальнікі? Калі лёс ахвяр неўзабаве напаткаў такіх, як Яжоў, Берман, дык што ўжо казаць пра нейкіх там «лебедзевых, ісаевых, соцікавых»! Мае рацыю С. Грахоўскі (яго інтэрв'ю «Урокі мінулага забываць злачынна», надрукаванае ў газеце «Советская Белоруссия» 12 чэрвеня г. г., давялося чытаць адначасова з аповесцю А. Кавалёва: «Паколькі работнікі НКУС «вельмі» многае ведалі, іх (нават узнагароджаных) рана ці позна забіралі і адпраўлялі ў лагеры і высылкі. Аднаго з такіх, Лукашонка, я сустрэў у лагеры. К моманту нашай сустрэчы ён быў поўнасцю дэмаралізаваны, цалкам зламаны маральна і фізічна. Не ведаю, чаму ён падышоў да мяне, магчыма, хацеў выказацца: «Я ведаю, што вы ні ў чым не вінаваты, але што я мог зрабіць?» — быццам апраўдваючыся, сказаў ён».

Гаворка не пра тое, каб некага абяліць. Проста ў імкненні да ўсеагульнай праўды (а яна адзінае, што непадсудна), выкрываючы вінцікі ў машыне знішчэння, трэба найперш шукаць тых, хто падштурхоўвае яе абароты, з'яўляючыся галоўнай прывадной сілай. Гэта тым больш важна і неабходна, бо, як сведчаць апошнія публікацыі ў друку, сёй-той з тых, хто раней займаў высокія пасты — і пры Сталіне, і пазней, — спрабуе паказаць сябе гэткай нявіннай авечкай, якая не займалася перабудовай толькі таму, што пра гэтую перабудову тады яшчэ не чула. Дарэчы, у аповесці А. Кавалёва шмат праўды сказана і ў дачыненні да вышэйшых эшалонаў тагачаснай улады.

Не можа аўтар забыць былыя крыўды? Але чаму ён павінен іх забываць? Пабыў бы хто-небудзь у яго скуры, тады б адразу адчуў, што значыць знаходзіцца ў турме, а тым больш «лішнія месяцы». А менавіта так адбылося ў выпадку з А. Кавалёвым. «...значна пазней я даведаўся, што ў кастрычніку 1940 года Панамарэнку асабіста было паведамлена аб заканчэнні паўторнага следства па маёй справе і Пракурор СССР вынес пастанову аб маім вызваленні ў сувязі з адсутнасцю віны. Цанава, з ведама Панамарэнкі, не выканаў гэтай пастановы, схаваў яе, і я, будучы юрыдычна апраўданым, знаходзіўся ў зняволенні яшчэ паўтара гады».

Панамарэнка, вядома, нямала зрабіў, каб выратаваць у свой час многіх з нявінных ахвяр, хоць і далёка не ўсё залежала ад яго, тагачаснага сакратара ЦК КП(б) Беларусі. Але гаворка ідзе аб гістарычнай праўдзе, аб тым, што ні з якіх меркаванняў нельга дапускаць, каб на старонках мінулага заставаліся «белыя плямы». Дзеля яе вялікасці Праўды.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ.**

**ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# Вяртанне Янкі Лучыны

***На ніве нацыянальнай культуры — свята:*** **выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла аднатомнік выбраных твораў аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, вядомага паэта - дэмакрата *Янкі Лучыны.***

**Няпростым было вяртанне пісьменніка да чытача. Як вядома, пры жыцці пісьменнік пабачыў толькі адну сваю кнігу — ананімна выдадзеную «З крывавых дзён», жанр якой аўтар вызначыў як «Эпізод з паўстання 1863 года на Міншчыне». Зборнік жа «Паэзія» выйшаў у Варшаве, калі Я. Лучыны ўжо не было ў жывых (1898). Яшчэ пазней пабачыла свет у Пецярбурзе яго «Вязанка» (1908). Выбраныя творы выходзілі і ў 1953 годзе.**

**Няма патрэбы нагадваць, наколькі бібліяграфічнай рэдкасцю сталі гэтыя выданні, як і тое, што нарыс С. Майхровіча «Янка Лучына», выпушчаны ў 1952 годзе, дае даволі прыблізнае *ўяўленне аб жыцці і творчасці пісьменніка,* бо ў ацэнцы здзейсненага ім сказаўся ўплыў тагачаснай крытыкі.**

**Тым больш адказная задача стаяла перад укладальнікам цяперашніх «Твораў» Я. Лучыны Уладзімірам Мархелем (ён жа аўтар грунтоўнай прадмовы «Пісалася ў добрай веры...» і каментарыяў да публікацый). Упершыню сабраны разам рознажанравыя творы Я. Лучыны. Зразумела, асноўную нагрузку нясе яго паэзія. Гэта, найперш, вершаваныя віншаванні «Усёй трупе дабрадзея Старыцкага беларускае слова» і «Дабрадзею артысту Манько», з якімі паэт у свой час звярнуўся да ўкраінскіх артыстаў, што выступалі ў Мінску ў 1887 годзе; вершы «Вясновай парой», «Вясна», «Стары ляснік», «Пагудка», «Сівер» і іншыя.**

**Польскамоўная паэтычная спадчына прапануецца ў перакладах самога У. Мархеля, а таксама Г. Тумаша, Р. Барадуліна, М. Арочкі, І. Чыгрына. У ёй адметнае месца займаюць «Паляўнічыя акварэлькі з Палесся», якія У. Мархель называе «Лучынавым адкрыццём беларускага народа, мужнага, цярплівага, сціплага».**

**Змешчаны ў кнізе і драматургічны абразок «Старасць не радасць», ужо згаданы запіс «З крывавых дзён», нарыс «Са святочнай паездкі». Чытач атрымае даволі поўнае ўяўленне і аб Лучыне - перакладчыку. Прапануюцца яго перастварэнні па-беларуску У. Сыракомлі, а таксама пераклады на рускую мову польскага паэта, удзельніка паўстання 1863 года А. Асныка.**

**Завяршае аднатомнік раздзел «Лісты». У эпісталярную спадчыну ўвайшлі пісьмы Я. Лучыны, адрасаваныя П. Шэйну, М. Доўнар - Запольскаму і рэдактару з Варшавы З. Пшасмыцкаму (апошнія з польскай мовы пераклаў А. Мальдзіс).**

**Выдаўцы парупіліся, каб аднатомнік стаў сапраўдным падарункам для ўсіх аматараў беларускай літаратуры. Ён надрукаваны на мелаванай паперы з адметнымі ілюстрацыямі мастака А. Александровіча.**

**В. ЗАКРЭУСКІ.**






раваў і сацыяльных катаклізмаў. У музычна-пластычным выяўленні. Вобраз часу. Бо музыка, танец — адбітак сацыяльна-культурнага стану грамадства. Псіхалагічнага яго настрою. Рытму яго жыцця.

У кожнага часу — свае песні. Свае мелодыі. Свае рытмы. Менуэт — і мы адразу ўяўляем грацыёзную даму ў крыналіне і кавалера ў чаравіках з бантамі, што застыў у пачцівым танцавальным рэверансе. Мазурка — і мройлівая думка сочыць за імклівым тактам у тры чвэрткі, якія адбіваюць лёгкія пантофлі паненак і элегантныя боты паноў. Biały mázur... Вальс — і вясёлая віхура венскай гарэзіі стракаціць белымі жаночымі строямі і чорнымі фракамі іх партнёраў, плыве рамантычнымі хвалямі рускай старадаўніны. Балеро — пошчак кастаньет і пагрозліва-пранізлівае выштукоўванне абцасаў — нязбытная, выструнена-напружаная трывога кахання. Полька, незабыўная полька «з падкіндэсам», полька-мятлуха, якім цветам-макам пракінуцца ў няспынным яе карагодзе андаракі красунь, якія каленцы выштукуюць хлопцы... Рытмічная млосць танга. Бадзёрая хуткасць факстрота. Іранічная адмысловасць чарльстана. Акрабатычная спартыўнасць, хвацкая зухаватасць рок-н-рола. Шрубарэзная гарэзія твіста. Галаваломная мудрагелістасць брэйкданса, неадчэпны, сечаны рытм.

Усё гэта, мабыць, заканамерна, як заканамерна вяртанне да тых ці іншых мелодый і рытмаў. Як заканамерна вечная праўда народных мелодый і высакародства музычнай класікі. Той музыкі, што ўзнікла ў хвіліны ўзвышэння чалавечага генію. Музыкі, пачуўшы якую, чалавек багацее на імгненні супрычаснасці да вяршыняў чалавечага духу.

Дарэчы, музыка некалі была тым мастацтвам, да якога трэба было далучацца свядома (у адрозненне ад архітэктуры, прыкладнога мастацтва), — ісці ў канцэрт, слухаць арган ці спевы ў царкве (хіба што музыка званоў успрымалася незалежна ад уласных намаганняў), іграць ці спяваць самому. Тэхніка зрабіла музыку агульнадаступнай, — грамафоны, патэфоны, рэпрадуктары, прыёмнікі, прайгравальнікі, магнітафоны, узмацняльнікі... Добра. І блага. Добра — кожны можа слухаць любую музыку. Блага — кожны можа **прымусіць слухаць** любую музыку.

Скажам, падарунак лёсу. Прахалодным летнім днём, калі парк сцішана маўчыць, недзе паміж вербалозінамі сажалкі і ліпамі прысад узнікаюць, перакідаюцца з нейкім пакутлівым наівам і цнатлівай трывогай гукі раяля. І ўсё навокал набывае той асобы сэнс, у якім «вселенной небывалость и жизни новизна» (Б. Пастарнак). Фрэдэрык Шапэн... Са звычайнага рэпрадуктара. Тэхніка...

Але было і такое. Мая маці жыла сваё апошняе лета. Цяжкае, гарачае гарадское лета. І былі ночы без сну. Кароткія для ўсіх летнія ночы — доўгія для яе. Мы бегалі накачваць кіслародную падушку, выклікалі «хуткую дапамогу». Урачы ТЭБ (тромбаэмбаліцыйных брыгад) самаахвярна святадзейнічалі, а над мікрараёнам усю ноч вісела непераможнанахабнае: «Цілі-цілі, цеста, йё-хо-хо, жаніх і нявеста йё-хо-хо!» Гулі вяселлі, якім «неба было мала і зямлі». Узмацняльнікі рабілі грамавымі кволенькія галасы ўзвесяляльнікаў, здавалася, раўло само паветра. А на кардыёграфе плыла рыса, амаль прамая, а чалавек у белым халаце, з мокрым ад высільвання чалом ніяк не мог трапіць іглой у збуцвелую вену. «Йё-хо-хо»! — высільваўся, вылузваўся са скуры і з голасу свайго наняты весялун. Узмацняльнікі неслі рэха. Тэхніка...

Гаворка не пра тое, што ўсе павінны даць зарок маўчання і нема сцяць вусны, выключыць усе цуды сённяшняй радыётэхнікі і гуказапісу. Мільённы горад — кожны дзень нехта жэніцца, нехта нараджаецца, нехта памірае. Але... Зноў жа — але. Цяпер магутныя мегагерцы ўзмацняльнікаў *даюць магчымасць* «цывілізаваць» усю ваколіцу. Прычэпістыя рытмы «хэві-металу» гучна-настойліва гудуць, бывае, з самай раніцы. Асабліва чутно гэта ў цёплую пару — вокны расчынены, тэхніка спраўна выдае мадэрновыя рытмы або яшчэ нешта ў стылі напаўкрымінальнага «фальклору»: «улица, улица, улица, родная, Савеловская улица моя...». Адразу хачу падкрэсліць, што я не з тых, што адмаўляюць сучасныя мелодыі і рытмы. Але — ёсць і няпісаныя правілы, і занатаваныя, здаецца, у афіцыйных рашэннях правілы чалавечых узаемаадносін, правілы, па якіх людзі павінны захоўваць цішыню. Слухайце тое, што вам падабаецца, але чаму гэта павінна слухаць уся вуліца? Увесь мікрараён? Нават і ясным днём. У Мінску, дарэчы, існуе пастанова, паводле якой такія парушэнні грамадскага парадку могуць быць пакараны штрафам у дзесяць рублёў. Супрацоўнікі міліцыі сведчаць, што веселуны звычайна спакойна расплачваюцца і працягваюць рабіць сваё. Ды і міліцыі працы, на жаль, хапае — зірніце толькі на крымінальныя зводкі, якія апошнім часам сталі друкаваць. Ну, а тэхніка — гэта тэхніка, яна не хутка стамляецца. Вось і слухайце... Усе.

А наконт самой музыкі — дык густы выхоўваюць. Вядомая ісціна. Чаму не даць выхад энергіі ў танцы, *што патрабуе* добрай выспартаванасці, маладога спрыту? Чаму не прымаць рызыкоўныя мадуляцыі, уласцівыя сённяшняй эстраднай песні, эксперыменты вакалізу сучасных музычных напрамкаў? Час, калі нават Эдзіт Піяф лічылі «не той» спявачкай, а рок-н-рол або твіст — выбрыкамі д'ябла, мінуўся, і даўно, яшчэ ў тыя часы застою. Але... Зноў — але. Сёння і тэлебачанне, і радыё, і ўсё трансляцыйныя кропкі ў магазінах, кафэ, рэстаранах іграюць адно, як, дарэчы, і «жывыя» аркестры. Свята вуліцы, раёна — зноў: «Гиподинамия!» або дысканты-фальцэты якога-небудзь айчыннага ці замежнага ВІА, часта вельмі прымітыўнага, з тых, што «выдаюць» штампавана-тыражыраваны лямант, калі, хоць памры, дык не адрозніш адзін ансамбль ад другога. У кіно *гераіня, ледзь расплюшчыўшы* вочы, з самага ранку, ляпае па клавішы магнітафона: «Держи меня, соломинка, держи!» І моладзь, асабліва зноў жа дзеці тых, учарашніх вяскоўцаў (а іх большасць у сённяшніх гарадах), нават не ўяўляюць сабе, што існуе яшчэ нейкая музыка. Таму што перадача пра вялікага кампазітара нашай сучаснасці Георгія Свірыдава ідзе, канечне ж, пасля «Пражэктара перабудовы», у дзесяць гадзін вечара, таму што выдатны тэлевізійны твор «Трынаццаць інтэрв'ю з Віктарам Трацяковым» ніколі, здаецца, *не паўтараўся,* таму што многа добрай сімфанічнай і камернай інструментальнай музыкі па тэлебачанні і радыё перадаюць — у дні нацыянальнай жалобы. Вось у такіх маладасведчаных маладых і складваецца ўражанне: пахавальная музыка. Ні «Што, дзе, калі», ні «Погляд», ні «Да і пасля паўночы», ні наша «Сустрэнемся пасля адзінаццаці» не абыходзяцца без музычнага допінгу такога кшталту. Нават папулярныя класічныя мелодыі пачуеш зрэдку. Наша філармонія спрабуе ісці супраць агульнай магутнай плыні. Не проста наладжвае канцэрты: робіць лекцыі, прадае абанементы. Хаця ў гэтым таксама ёсць свае мінусы. Заняты чалавек, у якога ніяк не выпадае тэатральна-вернісажны хранаметраж, час ад часу ўсё ж хоча паслухаць добрую музыку, адзін канцэрт, два, ажно білетаў *няма,* ёсць асветніцка-перастраховачны абанемент. Але... Нават і абанемент — гэта ўжо **свядомае** намаганне. А прычэплівыя мелодыі «індустрыялізаванага», тыражыраванага інструментальна-песеннага шквалу — яны даганяюць паўсюдна: у цягніку, у аўтобусе, на пляжы, у парку. Таленавітыя мелодыі і рытмічныя падробкі, шчырыя і прадуманыя словы і шматкаваная луска песеннай «рыбы». І часта да мелодыі, якой проста наканавана папулярнасць, далучаюцца слоўныя абракадабры, чакшталт: «Ах, вернисаж, ах вернисаж! Какой пейзаж! Какой пассаж!» Або: «Хозяйка кабаре— судьба». І г. д. І г. д. І г. д. І ўсё гэта спяваецца, паўтараецца, слухаецца. І пры сучасных сродках інфармацыі многія ўяўляюць сабе свет музыкі выключна толькі па модных шлягерах. І гэта не культура мас, гэта бяздумнае шэсце масавай культуры. З упэўненасцю, якую падтрымліваюць нашы сродкі інфармацыі, што інакш і быць не можа. І правы кожны, хто мае магнітафон з мажнымі мегагерцамі. Слухаю — аж шыбы звіняць. Я так хачу! Хто супраць?

Пасля прынятага закона пра *барацьбу з п'янствам на вуліцах* пацішэла, сышло ў нябыт п'яна-скандальнае баляванне вясова-летня-восеньскага перыяду, з аркестрамі з некалькіх малайцоў з ударна-разухабістым рэпертуарам. Але гвалт транзістараў, какафонія хатніх магнітафонаў, музычныя сметнікі кафэ і рэстаранаў, шалёны гвалт шлягернага рэпертуару пад час свят раёнаў і вуліц— усё засталося. Людзі развучваюцца адчуваць асалоду цішыні, слухаць галасы зямлі, галасы лесу: ідзе чалавек вясновым паркам, што ўвесь звініць птушынымі спевамі, і слухае транзістар. Засілле ўсё тых жа мелаварыяцый.

...У Мінску ёсць невялікае, утульнае кафэ «Паляўнічы». Стылізаваны *пад даўніну* інтэр'ер, столікі на дваіх, на чацвярых, паўзмрок... Там прыемна было пабавіць паўгадзіны— гадзіну. Яшчэ і таму, што раптам з тлуму вуліцы трапляў у сімпатычны куток, дзе цябе сустракалі гукі лесу. Вось нейкі раз ідзём мы, наперад цешым сябе — зараз глухаватая чырвань цагляных сцен, спакойнае святло ліхтароў, духмянае пітво з траў — і птушыны шчэбет. І раптам, яшчэ з парога, звычны знаёмы голас: «Седой паромщик...» Патрэбна і гэта— гучны талент Пугачовай. Але... Чаму сярод мітуслівага дня або пасля яго, увечары, не паслухаць птушак, не пагаварыць ціха з сябрамі? Дарэчы, у краіне песняў, у Італіі, ні ў адной з траторый, ні ў адным з рэстаранаў мінулай восенню мы не чулі музыкі. Цішыня. Хаця самы моцны магнітафон, усе цуды сённяшняй радыётэхнікі там каштуюць капейкі. Людзі прыходзяць адпачыць, пагаварыць, тлумачыў адной нашай аматарцы музычнага тлуму гаспадар траторыі, у кожнага свой настрой, а для музыкі ёсць дансінгі, канцэртныя залы.

Культура побыту, культура абыходжання, культура духоўная — гэта ўсё мае агульную сувязь. А мы так доўга культуру духоўную, не адмаўляючы, замянялі шматлікімі эрзацамі, замешанымі на паўпраўдах, з памкненнем да звыклых нарматываў. Так доўга лічылі другараднай культуру побыту, культуру паводзін, этыку звычаёвага рангу, што згубілі іх ушчэнт. І хіба не зараз, у час

*(Заканчэнне на стар. 10).*

ПРОЗА

**Алесь НАВАРЫЧ**



# Пасекнавенне багоў

*АПАВЯДАННЕ*

У ПОКУЦІ на бажніцы стаялі тры абразы: Саваофа, Багародзіцы з дзіцянём і Хрыста. Багі жылі тут спрадвеку. Яны глядзелі за хатай. Такая іхняя работа.

Саваофаў абраз быў скрыначкай са шкляным вечкам, пад якім знаходзілася дошка. На дошцы — намазаны твар і рукі бога, а вопратка выкраена з пазалочанай бляхі. Здавалася, бог выглядае з бляхі, як з пячоркі — гнеўна і з папрокам. Багародзіца была простым друкарскім адбіткам, узятым пад шкло.

Над Хрыстом пахадзіў багамаз-руплівец і стварыў цуд на трох ліпавых дошках. Лабаты, валавокі пакутнік абяцаў: я ўратую, я пазбаўлю — вер-це! Золата і блакіт звінелі на чорным фоне, і страдаўняя цьмянасць фарбаў на дошках, на якія маліліся пакаленні, несла ўсе тыя спадзяванні і надзеі, якія былі накіраваны на Ісуса. Можа, таму абраз баяліся праціраць вільготнай анучкай, быццам няўзнак маглі сцерці ўсе тыя просьбы і жаданні, якія выпрошвалі ў бога людскія вочы.

На бажніцы жылося суха і цёпла. Восенню і на Вялікдзень абразы выносілі з хаты асвяжыцца і пагрэцца на сонейку. Мянялі ручнікі, якімі багі былі спялюшаны. Чым не жыццё?

У хаце, акрамя багоў, жыў камсамолец з маткай. Пры газнічцы пакутаваў над «Капіталам», а паралельна мусоліў Біблію, выпрабоўваючы мудрасць адной кнігі мудрасцю другой. Хлопцаў круглявы твар аж крывіўся ад напругі. Маці кленчыла перад абразамі пасярод хаты і горача вышэптвала ў багоў шчасця разумніку-сыну і крышачку здароўя сабе.

Аднаго разу кнігі паляцелі пад лаву: хлопцу прыспічыла ажаніцца. І неўзабаве ў хаце зашчыравала маладая гаспадыня — чарнявая і вясёлая. Ці не ад гэтай весялосці ў хаце адзін за адным завяліся тры хлопчыкі. Не паспела старая ўволю парадавацца ўнучкамі — узялася за яе хвароба. Не дапамаглі ні грошы, ні кумпякі, якія сын развозіў па дактарах. Старую выпісалі, і яна памерла ў хаце, на ложку, з працягнутай да бажніцы рукой.

Дзяцей ніхто не глядзеў, гадаваліся ў хаце самапасам. Абшнорылі ўсе запечкі, падышлі пад бажніцу. Саваоф узрадаваўся — старая паспела прывіць малым пачцівасць і любоў да бога. Раптам адзін смаркач выставіў Саваофу пад нос хвігу. Нейкі момант дзеці чакалі боскай кары. Дзіцячыя вочкі пільна пазіралі на абразы. Саваоф вытрываў гэткую нахабнасць. Сцярпеў ён і тады, калі другі смаркач спусціў байкавыя штанцы, і паказаў бажніцы зад, а дзіцячая галава вызірала паміж ног і вочкі гарэлі яшчэ большай цікаўнасцю — няўжо і гэта «бозя» папусціць?

А праз некалькі гадоў дзеці паставілі да бажніцы ўслон, паздымалі абразы на падлогу, паадшчэпвалі нажом маленькія кручочкі, адчынілі шкляное вечка і жывымі пальцамі пачалі кратаць дашчаненькае цельца Саваофа, паварочваць яго на ўсе бакі, скрэбці пазурыкамі пазалоту на блясе. Потым даследавалі Багародзіцу. Але яна была нецікавай звычайнай друкаванкай. Дабраліся і да Ісуса Хрыста. Яму пашанцавала: яго толькі нюхалі і нават лізнулі, бо ад дошак ішоў незвычайны, прыемны пах. Так пахне вопратка святароў, ладан з кадзілаў, святыя кнігі, васковыя свечачкі — усё тое, што між людзьмі лічыцца за рэлігію.

Дзеці раслі. Сярэдні хлопец сіліўся разгадаць кірылічныя цітлы на звітку паперы, які трымаў Саваоф, старэйшы спрабаваў змаляваць Багародзіцу, але яму не паддаваліся складкі багародзіцавай спадніцы, таму малодшага брата апраналі ў матчыну спадніцу, садзілі ў позу Багародзіцы (замест немаўляці Хрыста ў падшыванца ў руках церабілася кацяня), і тканіна замалёўвалася з натуры.

Гаспадар хаты сядзеў у сельсавеце на шасцідзесяці рублях начвусам. Каб было яшчэ што да хлеба, рабіў сталярку, майстраваў услоны і лавы, вырэзваў людзям шыбы. Пры жонцы і дзецях абураўся нахабнасці сельсаветчыкаў, іх абыякавасці... Але і сам часам прыводзіў начальнікаў піць гарэлку і гаварыць пра высокія матэрыі. Аднаго разу старшыня і сакратар сельсавета зайшлі ў двор самі. Вопытнае вока вызначыла б, што яны пад градусам.

— Іван, дровы прыехалі! — працягнуў сакратар квіток. Гаспадар кінуў работу, падышоў да калег па сельсавеце.

— Пяць кубоў?! — паглядзеў у паперку.

— Ну...

— То пойдзем у хату?! — І яны

# СВЕТ ЗА МАНАСТЫРСКАЮ СЦЯНОЮ

**Фотарэпартаж Яўгена КОКТЫША**



**Апошнім часам — у сувязі з 1000-годдзем хрышчэння Русі — фота- і тэлерэпартажы з манастыроў, інтэрв'ю са святарамі і веруючымі сталі нармальнай з'явай. Сродкі масавай інфармацыі асвятляюць унутранае жыццё і грамадскую дзейнасць царквы. Гэта адна з праяў новага мыслення ва ўнутранай палітыцы нашай дзяржавы, крок у кірунку дэмакратызацыі і рэальнай свабоды сумлення.**

**Фотамастак Яўген Коктыш некалькі разоў наведваў Жыровіцкі манастыр у якасці карэспандэнта АДН па Беларусі. Ён рыхтаваў матэрыялы для часопіса «Сов'ет Лайф», які распаўсюджваецца ў Злучаных Штатах Амерыкі і Канадзе. Фотамайстру давялося здымаць святкаванне Дня Жыровіцкай багародзіцы, стварыць хроніку манастырскіх будняў, занатаваць аб'ектывам аблічча насельнікаў Жыровіцкай абіцелі.**

— Вы ўяўляеце, мабыць, што такое праца фотакарэспандэнта, — гаворыць **Я. Коктыш.** — Тэрміны звычайна сціслыя, а за кароткі час трэба не проста зарыентавацца, але і ўвайсці ў вобраз, асэнсаваць тое, што ты здымаеш. Гэта нялёгкая праца, але яна дазваляе адчуць напружаны рытм сучаснасці.

Дык вось, калі я на цэлы тыдзень трапіў у манастыр, каб зрабіць фотарэпартаж, мне па кантрасту з мітуснёй іншых камандзіровак падалося, што спыніўся бег часу. Напачатку ўсё было незвычайным — цішыня, размераны рытм жыцця, людзі, якія нікуды не спяшаюцца...

У мяне часам было ўражанне, нібы я знаходжуся на мяжы XVII—XVIII стагоддзяў, бо з тых часоў у манастыры, відаць, вонкава мала што змянілася. Тыя ж таўшчэзныя муры, вежы, купалы, аздабленне храмаў, ну і, зразумела, самі насельнікі манастыра. Іх спецыфічная дзейнасць і побыт выразна адбіваюцца на тварах, постацях, паводзінах. Для мяне, чалавека, які жыве па другі бок манастырскай сцяны, усё, што бачыў тут, абудзіла асацыяцыі з творамі Караткевіча — нешта на мяжы явы і мроі.

І, ведаеце, у мяне не было пачуцця сваёй чужароднасці і ў гэтым асяроддзі. Гаспадары рабілі ўсё, каб у мяне не было ніякіх праблем.

Вечарамі я меў размовы з айцом Стэфанам, чалавекам выдатнай эрудыцыі, знаўцам гісторыі. У ягонай вельмі сціплай келлі я бачыў сапраўдныя мастацкія каштоўнасці — старажытныя іконы, багаслоўскія кнігі-старадрукі, тое, што зрабіла б гонар музейнай экспазіцыі. Дарэчы, быў у келлі і маленькі тэлевізар. Увогуле, дасведчанасць святароў у тым, што робіцца за манастырскімі мурамі, у вялікім свеце, выклікае павагу.

Тыя манахі і манахіні, якіх я бачыў у Жыровічах, — людзі глыбока веруючыя. Пастрыжэнне ў манаства не дае ніякіх матэрыяльных выгод. Манастырскі побыт вельмі сціплы. Манах атрымлівае чыста сімвалічную «зарплату», і яшчэ з яе адлічвае палову ў Фонд міру.

За манастырскай сцяною я адкрыў для сябе цэлы свет. Спадзяюся, што мае работы дадуць такую ж магчымасць і чытачам «ЛіМа».

Запісаў
**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**



Раніца ў манастыры. Пабудка.



Манастырская пасека.



Намеснік настаяцеля Жыровіцкага манастыра айцец Стэфан у сваёй келлі.

# У БЕЛАРУСКІМ ФОНДЗЕ КУЛЬТУРЫ

**Адбыўся пленум праўлення Беларускага фонду культуры. З дакладам «Вынікі першага года работы і асноўныя накірункі дзейнасці Беларускага фонду культуры» выступіў старшыня праўлення БФК І. Чыгрынаў.**

**Канкрэтныя праблемы дзейнасці фонду культуры, развіцця беларускай культуры знайшлі асвятленне ў прамовах А. Мальдзіса, Я. Сахуты, М. Савіцкага, В. Грыцкевіча, А. Петрашкевіча, П. Садоўскага, Л. Казлова, М. Купавы і іншых. Былі заслуханы справаздачы і крытычныя заўвагі прадстаўнікоў абласных аддзяленняў фонду.**

**На пленуме прысутнічалі актывісты грамадскіх камісій фонду, работнікі партыйных і савецкіх органаў. На шэраг пытанняў, што ўзніклі па ходу работы пленума, адказалі намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. М. Мазай, намеснік міністра культуры БССР У. А. Гілеп. У рабоце пленума ўдзельнічалі загадчык аддзела культуры ЦК КПБ Я. К. Вайтовіч, першы намеснік загадчыка аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ А. У. Русецкі.**

**Унесены прапановы па дапаўненні і ўдакладненні доўгатэрміновай праграмы «Спадчына», прынята пастанова.**

**Справаздача аб рабоце пленума БФК будзе надрукавана.**

●

**Пры гісторыка - мемарыяльнай камісіі Беларускага фонду культуры створаны арганізацыйныя камітэты па ўшанаванні памяці выдатных дзеячаў беларускай культуры — фальклярыста, этнографа Язэпа Драздовіча, стагоддзе з дня нараджэння якога будзе святкавацца сёлета ў кастрычніку, і Міколы Шчакаціхіна, гісторыка і тэарэтыка мастацтва, педагога.**

**Камітэтамі распрацаваны комплексныя праграмы, рэалізацыю якіх распачаў Беларускі фонд культуры.**

**Праграма святкавання юбілею і ўшанавання памяці Я. Драздовіча прадугледжвае наступныя мерапрыемствы: выстаўка твораў Я. Драздовіча ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР у кастрычніку гэтага года; падрыхтоўка і выданне альбома твораў мастака; падрыхтоўка і выданне каталогу выстаўкі, што праходзіла ў Мінскім Палацы мастацтваў у 1979 годзе, і каталога маючай адбыцца выстаўкі ў ДММ БССР; выданне буклета з творамі Я. Драздовіча; наданне яго імя Мінскай гарадской мастацкай школе і вуліцы ў г. Глыбокім, устаноўка там мемарыяльнай дошкі ў гонар мастака; выпуск юбілейнага медаля, плаката, канверта, прысвечаных 100-годдзю з дня нараджэння Я. Драздовіча і інш.**

**Для ўвекавечання памяці М. Шчакаціхіна плануецца: хадайнічаць перад ІМЭФ АН БССР аб падрыхтоўцы і выданні ў двух тамах яго навуковай спадчыны, прасіць выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя П. Броўкі падрыхтаваць факсімільнае выданне галоўнай працы М. Шчакаціхіна «Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва»; правесці ў 1990 г. на базе ІМЭФ АН БССР навуковую канферэнцыю; устанавіць мемарыяльную дошку на будынку ІМЭФ АН БССР; надаць імя М. Шчакаціхіна гэтаму інстытуту і вуліцы ў г. Мінску; правесці вечар, прысвечаны памяці М. Шчакаціхіна.**

**НАШ КАР.**

●

**Мінскі аматарскі калектыў, якім кіруе Г. Прыма, паказаў у Гродне спектакль па п'есе У. Караткевіча «Маці ўрагану». Сродкі ад спектакля ў суме 1000 рублёў накіраваны на ўзвядзенне помніка К. Каліноўскаму ў абласным цэнтры.**

**Прэзідыум Гродзенскага абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры выказвае ўдзячнасць арганізатарам і ўдзельнікам дабрачыннай акцыі і спадзяецца, што яна будзе падтрымана нашымі творчымі калектывамі.**

**Выказваем таксама ўдзячнасць беларускай паэтэсе Д. Бічэль-Загнетавай, якая пералічыла ў Фонд культуры на помнік К. Каліноўскаму ганарар за вершы, апублікаваныя ў «ЛіМе».**

**Н. ТРУХАНОВІЧ,**
**намеснік старшыні Гродзенскага абласнога аддзялення БФК.**

## МУЗЫКА

# ПАСЛЯСЛОЎЕ ДА КОНКУРСУ

**У Магілёве прайшоў чарговы рэспубліканскі конкурс навучэнцаў сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў мастацтваў па спецыяльнасцях духавыя і ўдарныя, народныя інструменты.**

Напэўна, для многіх было неспадзеўкай меншая, чым звычайна, колькасць прэмій на конкурсе. Але ж стражэйшыя былі патрабаванні. Журы зыходзіла з таго, што лаўрэаты рэспубліканскага конкурсу (яны, як правіла, выпускнікі ССНУ) па меншай меры павінны адпавядаць патрабаванням, якія прад'яўляюцца абітурыентам ВНУ, і ў перспектыве арыентавацца на ўдзел у міжрэспубліканскіх і ўсесаюзных конкурсах.

Зноў парадавалі сваімі вучнямі І. Мысліўчык (Мінскае музычнае вучылішча, А. Мурзіч — І прэмія, С. Кухшынікаў—ІІІ, фагот); А. Каландзёнак (ММВ, Э. Перальман і Ю. Шавека — адпаведна ІІ і ІІІ прэміі, флейта); І. Кундзянок (Магілёўскае музычнае вучылішча, А. Аляксюк — І прэмія, В. Кудравец—ІІІ прэмія, габой); Н. Аўраменка (Сярэдняя спецыяльная музычная школа, Я. Гедыльтар — ІІІ прэмія, флейта); В. Зайцаў (ССМШ, П. Рафеенка — ІІІ прэмія, фагот); А. Гурэвіч (Брэсцкае музычнае вучылішча, А. Гук — ІІІ прэмія, кларнет). Сюрпрызам конкурсу сталася выступленне (на падставах выключэння) вучня 5-га класа Мінскай ДМШ № 1 А. Вакуленкі (выкладчык Я. Мазелеў), узнагароджанага паводле вынікаў двух тураў ганаровым дыпломам.

Адсутнасць першых і другіх прэмій па некаторых спецыяльнасцях у многім сімптаматычная. Наконт саксафаністаў гэта зразумела — яны ўдзельнічаюць у конкурсе ўпершыню, інструмент толькі пачынае «прыжывацца» ў навучальных установах. А вось стан спраў у астатніх інструментаў не можа не выклікаць трывогу. Асабліва засмучае нездавальняючае гучанне кларнетаў. Прафесійны тон паказаў (на жаль, толькі на І туры) адзін А. Вакуленка. Коле вочы (дакладней, вушы) вялікі разрыў паміж лідэрамі і астатнімі канкурсантамі. Тут і тэхнічны брак, і нізкая якасць гучання, і недастатковая выразнасць. А да конкурсу былі дапушчаны самыя здольныя! Ніводная з ССНУ не змагла прадставіць на конкурсе ўсе інструменты. Асабліва бедна выглядаў габой — 4 удзельнікі (два з Магілёўскага вучылішча і два з Маладзечанскага). А Лідскае музычнае вучылішча і Рэспубліканская школа-інтэрнат па музыцы і выяўленчым мастацтве імя І. Ахрэмчыка не прадставілі на конкурс ніводнага ўдзельніка. Губляе свае пазіцыі лідэра ССМШ. Яна дастойна выглядала толькі па спецыяльнасцях флейта і фагот. Мы маем права разлічваць на стабільныя вынікі работы педагогаў школы. Бо гэтая школа таленавітых дзяцей, укамплектаваная (ва ўсякім разе, так павінна быць) лепшымі педагагічнымі кадрамі, асноўная крыніца абітурыентаў для кансерваторыі. Яна знаходзіцца ў значна выгаднейшых умовах (інфармаванасць, інструментарый, магчымасць «жыўцом» чуць духавікоў рэспублікі і краіны, замежных выканаўцаў).

Можна разважаць пра «цыклічнасць з'яўлення таленавітых дзяцей», пра многія іншыя прычыны, якія не дазволілі некаторым навучальным установам паказаць добрыя вынікі. Ды работа такіх педагогаў, як А. Каландзёнак, І. Мысліўчык, Н. Аўраменка, І. Кундзянок, В. Зайцаў, А. Гурэвіч, А. Шыманец, наводзіць на думку, што пры старанным адборы кадраў, настойлівасці, любові да сваёй справы, наяўнасці прафесійных ведаў і вопыту можна чакаць пастаянных добрых вынікаў.

Існуе ў рэспубліцы кадравая праблема. Не ўсе навучальныя ўстановы ўкамплектаваны спецыялістамі, нярэдка габаіст выкладае фагот, кларнетыст — флейту і г. д. Хіба можна ў такіх умовах чакаць высокай якасці падрыхтоўкі моладзі? І таму дзіўным падаюцца рашэнні аб адкрыцці духавых школ у Мінску і ў Баранавічах, арганізацыя класаў саксафона і эстрадных аддзяленняў у шэрагу музычных вучылішчаў. Якімі ж кадрамі збіраюцца іх укамплектоўваць? Гэта ж запланаваны выпуск спецыялістаў нізкай якасці! Ці не лепш сродкі, выдаткаваныя для новых навучальных устаноў, накіраваць на ўмацаванне ўжо існуючых? Пытанне якасці, г. зн. асноўнае пытанне перабудовы, нельга вырашыць экстэнсіўным шляхам.

Дэфіцыт кадраў адчуваецца нават у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Выкладчыкі кафедры духавых інструментаў апошнім часам працуюць з перагрузкай. Прычына гэтага — не толькі недахоп высокакваліфікаваных спецыялістаў, але і фармалізм у аплаце педагагічнай працы, скарачэнне сумяшчальніцтва і іншыя бюракратычныя перашкоды.

Прагрэс у духавым выканальніцтве і педагогіцы ідзе хуткімі тэмпамі, у сувязі з гэтым трэба кардынальна пераглядзець сістэму павышэння кваліфікацыі педагагічных кадраў сярэдняга звяна. Існуючыя курсы павышэння кваліфікацыі з мізэрнай колькасцю гадзін па спецыяльнасці і методыцы свайму прызначэнню не адпавядаюць, па сутнасці сваёй гэта... дадатковы аплачваемы водпуск, які выкладчыкі сярэдняга звяна атрымліваюць раз у 5 гадоў.

Каб істотна павысіць якасць падрыхтоўкі спецыялістаў, трэба ўводзіць у прафесійныя навучальныя ўстановы конкурсную сістэму выпускных экзаменаў. Тым, хто не вытрымаў конкурс, можна выдаваць дыплом без прысваення пэўных кваліфікацый (выкладчык ДМШ, музычных вучылішчаў, выканаўца і г. д.), але які дае права працаваць у галіне мастацтва (адміністратыўная, упраўленчая і іншая падобная праца). Бо не сакрэт, у гэтых колах пераважаюць людзі без спецыяльнай адукацыі, што з'яўляецца прычынай многіх недахопаў і казусаў у рабоце. Вядома, конкурсная сістэма на першым часе скароціць колькасць выпускнікоў, але затое (і гэта самае важнае) не дазволіць шэрасці пладзіць да сябе падобных, а элемент канкурэнцыі павінен павысіць зацікаўленасць вучняў у выніках сваёй працы.

Не мне першаму даводзіцца гаварыць пра яшчэ адну праблему, якая істотна перашкаджае павышэнню якасці навучання ігры на духавых інструментах: адсутнасць належнага інструментарыя. Нікому ж не ўспадзе на думку ажыццяўляць перабудову ў прамысловасці на састарэлым, непрыдатным абсталяванні. А ў музыцы?..

Пакуль мы не будзем забяспечаны ў поўнай меры прафесійным (а ў ВНУ — адпаведным міжнароднаму ўзроўню) інструментарыем, да таго часу асобныя таленавітыя педагогі будуць з асобнымі талентамі-вучнямі «здзяйсняць подзвігі», а не спакойна працаваць і выпускаць выканаўцаў, выкладчыкаў на ўзроўні сённяшняга дня. А іншыя (г. зн. абсалютная большасць) — апусцяць рукі перад «вечнымі» праблемамі ці па-ранейшаму будуць «змагацца з ветракамі». Спадзявацца на рэзкі рост якасці айчынных драўляных духавых інструментаў, якія не вытрымліваюць ніякай крытыкі, не даводзіцца. Вядучым замежным фірмам на гэта спатрэбіліся многія дзесяткі гадоў. Нам чакаць не выпадае. А скарачэнне імпарту спрыяе спекуляцыі і ўзвінчэнню цэн на музычныя інструменты, і мара набыць прафесійны інструмент робіцца для большасці музыкантаў ілюзорнай.

І ўсё ж свае нататкі закончу на аптымістычнай ноце. Конкурс адбыўся. Адбылося свята. Дзякуй яго арганізатарам і гаспадарам. Кожны ўдзельнік спаборніцтва — пераможца: перамог сябе, сваю інертнасць, знайшоў сілы засвоіць досыць складаную праграму, палепшыў сваю ўласную прафесійную падрыхтоўку. І, значыць, не прайграў.

**Генадзь ЗАБАРА,**
**заслужаны артыст БССР,**
**член журы конкурсу.**

## НАШЫ ГОСЦІ

# НА АЛТАР ДРУЖБЫ

Сто гадоў таму назад, вітаючы ў Мінску ўкраінскую тэатральную трупу М. Старыцкага, Янка Лучына ўдзячна і прароча пісаў:

Дзякую Вам, брацікі,
сястрыцы родныя,
За Вашы хвацкія песні
народныя,
За тую гутарку Вашу вясковую,
За праўду светлую, за праўду
новую!..

Яе ж паслышыць наша
старонка!
Спявайце ж, братцы, смела і
звонка.
Не згіне песня і Украіна!

Будзьце здаровы!
Янка ЛУЧЫНА.

Гэтымі ўсхвалявана-паэтычнымі словамі пачалася творчая сустрэча з артыстамі Львоўскага акадэмічнага тэатра імя М. Занькавецкай, якая адбылася ў мінулы чацвер у Доме літаратара па ініцыятыве секцыі мастацкага перакладу і літаратурных узаемасувязей СП БССР. Сто гадоў назад мінчане радасна віталі сяброў-украінцаў, сярод якіх была і Марыя Занькавецкая. Цяпер жа з нязменнай радасцю яны сустрэліся з акцёрамі тэатра, які заслужана носіць імя выдатнай украінскай актрысы.

На сустрэчу з беларускай літаратурнай грамадскасцю прыйшлі галоўны рэжысёр тэатра, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі Ф. Стрыгун, сакратар партыйнай арганізацыі тэатра народны артыст УССР Б. Казак, народныя артысты СССР, лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі УССР імя Т. Шаўчэнкі А. Гай і Н. Дацэнка, народныя артысты УССР У. Максіменка, Т. Літвіненка, Л. Кадырава і іншыя майстры ўкраінскай сцэны, што вызначаюць сёння творчае аблічча тэатра Занькавецкай.

Сустрэча прайшла сапраўды творча, па-дзелавому. Г. Колас, Т. Кабржыцкая, А. Асташонак, Л. Леванові, Л. Караічаў, студэнт Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна У. Рагойша дзяліліся ўражаннем ад спектакляў львавян, адзначалі высокую моўную культуру ўкраінскіх артыстаў, гаварылі пра значэнне тэатра ў перыяд перабудовы нашага грамадства, рабілі заўвагі, уносілі канкрэтныя прапановы. Галоўны рэжысёр тэатра Ф. Стрыгун і акцёр Ю. Брылінскі, спыніўшыся на даўніх традыцыях украінска-беларускіх культурных і, у прыватнасці, тэатральных узаемасувязей, падкрэслілі неабходнасць іх далейшага пашырэння і мацавання.

Творчая сустрэча завяршылася імправізаваным канцэртам. Украінскіх выканаўцаў беларускіх народных песень вітала фальклорная суполка студэнтаў-філолагаў БДУ імя У. І Леніна. А затым выступілі нашы сябры. У. Максіменка, якога многія запомнілі па спектаклю «Марыя Занькавецкая» І. Рабакляча (там ён выконваў ролю карыфея ўкраінскага тэатра М. Крапіўніцкага), прачытаў некалькі сатырычных твораў. Крыху нязвычна, але не менеі радасна было бачыць і чуць Т. Літвіненка і Ф. Стрыгуна не ў ролі экспансіўнай італьянскай пары з «Філумэны Мартурана» Э. дэ Філіпа, а ў ролі... спевакоў — выканаўцаў украінскіх народных песень. Іх дапоўніў яшчэ адзін лірычны дуэт — М. Тэлішэўская і С. Глова, у якіх слухачы пазналі, у прыватнасці, Сцепаніду з «Ой, не хадзі, Грыцю...», М. Крапіўніцкага і Упаўнаважанага з «Дзяцей Арбата» А. Рыбакова. Маладая ж актрыса Л. Банкоўская раскрылася як выканаўца народных карпацкіх (байкоўскіх і лэмкаўскіх) песень.

А праз два дні, 25 чэрвеня, украінскія сябры паклалі яшчэ адзін дарунак на алтар украінска-беларускай дружбы. У памяшканні Тэатра музычнай камедыі яны далі дабрачынны спектакль «Дзеці Арбата», сродкі ад якога пералічаны ў Беларускі фонд культуры на будаўніцтва Дома-музея В. Дуніна-Марцінкевіча ў Люцынцы. Безумоўна, адзін гэты ўчынак важыць больш, чым сотні слоў аб дружбе, супрацоўніцтве, узаемадапамозе. Пачын львоўскіх артыстаў, несумненна, падхопяць беларускія тэатральныя калектывы, каб у хуткім часе мы змаглі пакланіцца першаму класіку новай беларускай літаратуры, заснавальніку нашага нацыянальнага тэатра і драматургіі ў яго роднай люцынкаўскай хаціне—там, дзе ён напісаў усе свае вядомыя сёння творы, у тым ліку — несмяротную «Пінскую шляхту».

**Вячаслаў РАГОЙША.**

## НАШ КАЛЯНДАР

# «Ало!.. Гэта Бярозкін...»

І праўда, не паспяваеш азірнуцца... Ці ж даўно было: раптам звоніць тэлефон — і ў трубцы ўзнікае:

— Ало!.. Гэта Бярозкін...

То яму ўдакладніць трэба, у каго менавіта вучылася Надзя Лежэ ў дваццатыя, то ці не назаву я дату, калі награвіраваў Мікалай Іванавіч Гусеў партрэт Ізі Харыка, то вось толькі што паслухаў радыёперадачу тваю...

І — на завяршэнне размовы:

— Сустрэцца трэба!..

А кожная сустрэча — свята думкі. Ды калі яшчэ субяседнікі яго — Алесь Адамовіч, Навум Кіслік, Барыс Бур'ян!..

Калі быў у мяне ў апошні раз (нікому і ў голаў не магло стукнуць, што ў апошні), — пра што толькі ні гаварылася: пра ягоныя «Звенні» (так прагна слухаў, чаму яго ўспрыманне руху беларускай паэзіі памагае спасцігаць рух беларускага жывапісу), пра новую задуму (тлумачыў: «Разумееце, будзе складаная кніга са складанай кампазіцыяй — кругамі, кольцамі...»), пра толькі што прачытаны ім рукапіс успамінаў маскоўскай мастачкі Елізаветы Паўлаўны Крывашапкінай («Гэта абавязкова павінна быць надрукавана — сапраўды інтэлігентная проза!..» — ён спрабаваў памагчы апублікаваць гэты рукапіс)...

І — на развітанне: «Добра пасядзелі!..»

Знаёмству з ім больш трох дзесяткаў гадоў назад я абавязаны Барысу Бур'яну і Валянціну Тарасу, а духоўнаму кантакту з ім з першага ж знаёмства — Васілю Вітку, які ўзяў мяне ў «ЛіМ» і прызначыў у аддзел літаратуры — да Рыгора Шкрабы, Навума Кісліка, Сцяпана Александровіча. У «ЛіМе» друкаваліся палемічныя нататкі Рыгора Бярозкіна, першыя артыкулы Алеся Адамовіча — «эпіцэнтр» тагачасных літаратурных спрэчак.

«Нёман» і «ЛіМ» — у суседніх калідорах. Уранку, калі прыйдзеш у рэдакцыю разам з тэхнічкамі і машыністкамі, можна папрацаваць у цішыні (рэдактура і літсупрацоўнікі пачыналі рабочы дзень а дванаццатай). І заўсёды — з самай раніцы — Бярозкін ужо ў «Нёмане». Якая там тэрміновая работа, калі раптам зайшоў Рыгор!

Не, ён не падаўляў субяседніка сваёй эрудыцыяй, інтэлектам, вастрынёю і культураю мыслення. У ім было вельмі развітае пачуццё такту. Аднак выяўляў настолькі дасканалае веданне і адчуванне паэзіі (і не толькі паэзіі, зразумела), настолькі бліскуча выказваў думку, што не адзін субяседнік міжволі тушаваўся.

Мы гаварылі з ім пра Блока, Брусава, Віктара Шклоўскага, Юрыя Тынянава, Паўла Антакольскага, Барыса Пастарнака. У такім кантэксце ўзнікала імя Максіма Багдановіча. Напэўна, сярод усіх, хто пісаў пра гэты феномен нашай паэзіі, найбольшую вастрыню паэтычнага слыху выявіў Бярозкін. Задоўга да артыкула, дзе так ушчыльную набліжана ім да нашага часу Багдановічава «Я хацеў бы спаткацца з вамі...», узнікаў у яго роздуме, хваляваў яго надзвычайна вось гэты найпраніклівы матыў: «Нашто ж на зямлі сваркі і звадкі, боль і горыч, калі ўсе мы разам ляцім да зор?»

Аднойчы прыйшоў і паклаў перада мною папку, надпісаную нервовым почыркам: «Рыгор Бярозкін. Паэзія праўды» — рукапіс ягонай першай кнігі — пра Петруся Броўку, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанку.

— Вось, паглядзіце з пункту гледжання мовы... Знойдзеце залішнюю «навуковасць» — стаўце «птушкі»... Але мяне болей сама лексіка турбуе. Ці не занадта архаічная мая мова — я дастаткова доўга быў адарваны ад жывой беларускай гаворкі...

Болей як на дзвесце старонак рукапісу — дзесяткі дватры моўных недакладнасцей. Той ступені ўважлівасці, з якой паставіўся хай сабе і да вельмі нешматлікіх заўваг Бярозкін, не сустракаў ні ў кога. Абмеркаваўшы варыянты паправак, мы пайшлі з рэдакцыі і доўга яшчэ хадзілі па горадзе: гаворачы аб прыватных момантах стылю, Бярозкін шчодра чытаў вершы, каменціруючы лёс паэтаў, чые імёны не гучалі ў лекцыях маіх універсітэцкіх выкладчыкаў. Жывое пульсаванне гісторыі паэзіі перадваенных гадоў ён, Бярозкін, даваў адчуць ва ўсім яе трагедыйным свячэнні...

«Вось хто павінен бы чытаць гісторыю паэзіі студэнтам!..» — калі, можа, і не падумаў пра гэта тады, дык цяпер менавіта так думаю.

З усіх даброт на свеце яму патрэбен быў толькі рабочы стол, ды ўсё тое, што з рабочым сталом звязана: кнігі, субяседнікі. І каб гутаркі — не пустыя.

Адна з апошніх сустрэч — з ранку і да позняга вечара.

Напярэдадні пазваніў: «Едзем да Рана?!. Заўтра ж!..» Мастак даўно ўжо запрашаў паглядзець серыю партрэтаў пісьменнікаў. Уранку сустракаемся на плошчы Якуба Коласа, едзем на вакзал. У электрычцы — распачаты калісьці на вернісажы абмен думкамі пра адну карціну. Ягонае пытанне — ва ўпор: «Чаму гэта добра?». Дашукваецца ісціны.

І вось мастак сустракае нас. Перапады эмоцый Бярозкіна — надзвычайныя. На партрэтах ёсць і даўнія сябры. Для мяне яны — гісторыя. Для Бярозкіна і Рана — усё яшчэ сучаснасць. Стараюся не замінаць іх успамінам. Падабенства, характар, выяўленыя ў партрэтах, здавальняюць Бярозкіна. Мастак паказвае і іншыя работы. Бярозкін ізноў: «Скажыце, чаму гэта добра?..» Нагадваю, як захапляўся ён адным-адзіным радком Сяргея Дзяргая пра палёт жука: «Я таксама магу спытаць: чаму гэта добра?..» Смяецца: «Вы гэта памятаеце?!. А сапраўды, як вы тлумачыць, чаму так добра ў Янкі Купалы — «Дробны дождж дзыйк церушыў»?! Чаму?» Кажу: «Мастак пачынае тады, калі слова бяссільнае. У тым ліку і мастак слова!..» Ухапліваецца за гэтую думку, развівае ў самых нечаканых напрамках. Віхура нечаканых асацыяцый, прыкладаў. І — вершы, вершы!.. Гадзіны гаворкі ва ўтульным кутку саду праляцяць у момант вока. «Добра сядзім!..» — усміхаецца Бярозкін.

Рану: «А і на самай справе партрэты цудоўныя!..» Мне: «Можа, не варта ламаць галаву — чаму?!» І такі, здавалася б, бесклапотны, увесь захоплены гутаркай, раптам мяняецца на вачах, робіцца ўстрывожаны:

— Валодзя, паедзем!.. Да стала, да рабочага стала!..

Ніякія довады Лазара Саулавіча, што яшчэ не адна электрычка будзе, не пераконваюць Бярозкіна — рвецца дахаты, да стала...

Неаднойчы чуў, як тыя, што лічаць сябе за паэтаў, з зайздроснай энергіяй папаўняючы паток шэрасці, пыталіся раздражнёна: «Чаго ён хоча?» Сапраўдныя ж паэты чыталі прыслухоўваліся і будуць чытаць і перачытваць, бо яшчэ столькі трэба асэнсаваць у развіцці беларускай паэзіі ў часы, для творчасці яўна «мало оборудованные»... Цяпер, калі выпрацоўваецца новае мысленне, так нестае ягонага абсалютнага слыху на ўсялякі фальш, ненатуральнасць выказвання, мімікрыю, канфармізм, чаго ў літаратуры — на жаль! — з лішкам хапае ва ўсе часы і на ўсіх мерыдыянах. Сённяшнія дні асабліва высвечваюць незаменнасць кніг Бярозкіна ў духоўным нашым быцці. Перачытваючы іх, не можаш не думаць: у спелай літаратуры — спелая крытыка, і калі ў гады застою ў беларускай паэзіі быў **такі** крытык — значыцца, паэзія гэтая нечага вартая...

Напэўна, дакладнай будзе метафара: ён заўжды быў у эпіцэнтры сапраўднай паэзіі. І яго кнігі — надоўга. На вельмі доўга. Можа, нават назаўсёды. Таму што памагаюць зразумець, як паэзія XX стагоддзя выстаяла, не страціла годнасці. І як выстаяла крытыка, хаця ёй даставалася, хаця ёй даводзілася гаварыць, і як бы нічога і не гаворачы, ужываючы «фигуры умолчания»...

Не магу забыць, як адзін, мякка кажучы, не залішне тактоўны чалавек з вышынь «незамутнёнасці» ўласнае біяграфіі, гэтак па-панібрацку спрабаваў пахваліць яго: «Вы, Рыгор, і ў тыя гады, па той бок дроту, заставаліся чалавекам...» Калі я таму чалавеку адрасаваў рэзкія словы, Бярозкін супакойваў: «Кіньце, Валодзя, гэта не ёсць жыццё...»

Кепска працаваць Бярозкін не ўмеў. Вось і ў бюлетэні «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі» працаваў з поўнаю самааддачаю. Многія маглі б прыгадаць яго патрабавальныя пытанні з нагоды «Помнікаў...»:

— Ну, як у нас мова?!. Мы ж выданне **навуковае**, а для кожнага даступнае!..

Сапраўды, пакручастыя бываюць шляхі «кадравай палітыкі». У гады застою літаратурныя чыноўнікі (і не толькі літаратурныя) умелі-такі закілзаць крытыку. Якія толькі людзі ні кіравалі тады літаратурнымі і крытычнымі аддзеламі і рэдакцыямі ў часопісах, газетах, выдавецтвах. Розуму, інтэлекту, густу Рыгора Бярозкіна там месца не знаходзілася. Ці трэба тлумачыць — чаму?..

Зазірніце ў том ЭЛІМБела, дзе амаль побач даведкі пра Бэндэ і Бярозкіна, параўнайце хаця б аб'ём даведак. Знойдзецца над чым падумаць. Дробязі?!.

Ён прагна прыслухоўваўся да кожнага водгуку на свае артыкулы, кнігі. Да кожнага — друкаванага, вуснага. Яму бывала так важна: **як** успрынялі, **як** зразумелі.

Ён бываў усякі: шчыра адкрыты, сумна або сярдзіта маўклівы (прыкурваў цыгарэту ад цыгарэты), гнеўна саркастычны, выбуховы, перапоўнены іроніяй, безабаронна трывожны... Работа думкі і пачуцця пастаянна кіпела ў ім. Валодаў здольнасцю ў момант вока ўцягваць субяседніка ў глыбіні мыслення, каб з глыбінь гэтых узляцець да вышынь пачуцця, даступных сапраўднай паэзіі.

Не толькі кнігі яго перачытайце. Знайдзіце раскіданыя ў прэсе палемічныя нататкі Бярозкіна. Больш зразумелы і больш відочны стане напал ягонага духоўнага быцця.

Вастрыня яго меркаванняў у дачыненні да людзей таленавітых бывала, калі так можна сказаць, нейкай літасцівай. Як бы просячы прабачэння, у фінале пісьмаў такім людзям дадаваў: «Зразумейце, іначай не магу. Так ужо выхаваны».

Калі выйдзе збор твораў Рыгора Бярозкіна (а выйдзе абавязкова, хоць мы сёння і не ведаем, калі!..), — будуць сабраны і такога роду пісьмы, і выдавецкія рэцэнзіі, і раскіданыя па газетах палемічныя нататкі. Усё гэта паможа многае і многае зразумець.

А які бываў саркастычны, сутыкаючыся з вульгарна-сацыялагічнымі вышукамі! Гэта ж ён парадзіраваў:

— Таварышы! Мы дасягнулі пэўнага ўзроўню ў змесце нашай паэзіі, але тым часам заняпала форма... Праўда, у нас ужо было, калі паспелі выцягнуць форму, аднак жа тады заняпаў змест...

Як жа нестае голасу ў тэлефоннай трубцы:

— Ало!.. Гэта Бярозкін...

**Уладзімір БОЙКА.**



Рыгор **БЯРОЗКІН** (трэці злева) сярод літаратараў. Каралішчавічы, 1966 г.

Фота Ю. КАНЭ.

## ВІНШУЕМ!



**Пісьменніку Івану МЯЛУ спаўняецца 70 год. З гэтай нагоды праўленне СП Беларусі накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнямі добрага здароўя, новых творчых поспехаў.**



**Спаўняецца 50 год вядомаму пісьменніку Уладзіміру МАШКОВУ. Праўленне СП БССР накіравала яму прывітальны адрас з пажаданнямі творчага плёну, новых цудоўных кніг.**

Супрацоўнікі «ЛіМа» таксама зычаць юбілярам усяго самага добрага ў жыцці і творчасці.

## ГОСЦІ З ФІНЛЯНДЫІ

**Мінск наведала група пісьменнікаў з усходніх раёнаў Фінляндыі, у складзе якой былі празаікі, драматургі, крытыкі, перакладчыкі, вучоныя славісты — Кірсці Сірастэ, Пэка Лоўнэла, Кале Хеландэр, Раія Хеландэр, Анцці Сэпа, Лайла Сэпа, што ўваходзяць у склад літаратурнага таварыства «Палта».**

**Яны мелі гутарку са старшынёй праўлення СП БССР Максімам Танкам, першым сакратаром праўлення Н. Гілевічам, сакратаром праўлення В. Зуёнкам, Б. Сачанкам, А. Мальдзісам, Я. Янішчыц, А. Гардзіцкім. Госці былі праінфармаваны аб перакладах твораў фінскіх пісьменнікаў на беларускую мову, аб адлюстраванні фінскай тэматыкі ў нашай літаратуры. Было выказана ўзаемнае пажаданне аб неабходнасці пашырэння творчых кантактаў паміж беларускімі і фінскімі літаратарамі.**

**А. КУЗЬМІЧ.**

## У ІМЯ ШЧАСЛІВАГА МАЛЕНСТВА

**Па даўняй традыцыі шосты нумар часопіса «Вясёлка», прысвечаны Міжнароднаму дню абароны дзяцей, падрыхтаваны на грамадскіх пачатках. На гэты раз аўтары яго — паэты Э. Агняцвет, К. Камейша, В. Гардзей, Васіль Вітка; празаікі В. Хомчанка, У. Ліпскі; гісторык С. Тарасаў, кампазітар Г. Вагнер, мастакі П. Драчоў, У. Савіч, В. Тарасаў, Я. Ларчанка, Т. Беразенская, Н. Грамыка, В. Чэпік і іншыя— ганарар пералічылі ў Савецкі дзіцячы фонд імя У. І. Леніна.**

**В. ПАЎЛЮЧЭНКА.**

## У ЗБОРНІКУ «ПОДВИГ»

**Выйшаў другі ў сёлетнім годзе выпуск «Бібліятэкі героікі і прыгод» — дадатка да часопіса «Сельская молодежь». У калектыўным зборніку прадстаўлена таксама аповесць В. Быкава «У тумане».**

**К. СЕЧКА.**

## ПАЭЗІЯ

**Сяргей СОКАЛАЎ-ВОЮШ**



# Навапалацк-88

ТРЫЦЦАЦІГОДДЗЮ ГОРАДА ПРЫСВЯЧАЕЦЦА

### I

У 1986 годзе ў параўнанні з 1980-м колькасць анкалагічных хворых у Навапалацку вырасла ў пяць разоў. Узровень захворвання эндакрыннай сістэмы ў дзяцей — у пяць разоў вышэй сярэдняга па рэспубліцы. Больш як у два разы часцей тут пакутуюць на бранхіты ды бранхіяльныя астмы.

(Па матэрыялах друку рэспублікі).

У спіну дождж сячэ,
Шпурляе вецер бруд.
Чаму я тут яшчэ?
Чаму дагэтуль тут?
Хіба другіх шляхоў
Не мае гэты свет?
У ім жа столькі схоў,
Бадай, не менш, як бед,
Па вуліцах іду,
Прамоклы горад спіць
І прагна сніць ваду,
І моўчкі просіць піць.
Яму б цяпер гукнуць,
Падставіць ветру твар,
Ды цяжка удыхнуць
Паветраны узвар.
Яго ахутаў смог,
Скавала немата
Ад хутkіх дапамог
Ля кожнага кута,
Ад пафасных прамоў
З амбонаў пахвальбы,
Ад патаемных змоў,
Ад чорнай варажбы,
Дзе засцелы зброд
Няправы суд вяршыў
І ў ладкі біў народ
Па шчырасці душы,
Дзе ціха, па крывой,
Якая ўверх расла,
Свайго выводзіў свой
Да поўнага катла.
О гэты бум крывых —
Шкала нібыта спраў,
Мільёны стырнавых
І ледзь не кожны краў,
Ды з душамі Іуд
Хлусіў хто — будзь здароў,
Хто меў у думках бруд,
Хто меў на лапах кроў.
Я чую іх адказ
І немы і нямы:
— Ва ўсім павінны час,
Але не мы, не мы...

### II

Грамадзянка Сокалава Ганна Уладзіміраўна памерла 25.08. 1984 г. ва ўзросце 55 гадоў... Прычына смерці — рак... Месца смерці: горад Навапалацк...

(Пасведчанне аб смерці І-РО № 421968).

Як свечка згасла, хто ў тым павінен?
Павінен час? У чым яго віна?!
І енк на вуснах анямеўшы стыне,
І ў бездань апускаецца труна...

Няма звароту і няма адказу...
— Такі ўжо лёс, такое, брат, жыццё, —
Прамовіў хтось завучаную фразу,
Бязгрэшна уздыхнуўшы, як дзіцё.

Такі ўжо лёс, такая наша доля,
Ратуй нас Бог ад гэтакіх высноў,
Каб не хаваць заўчасна ў чорным доле
Сынам матуль, а мацяркам сыноў.

Лёс не бяздушнасць, не пустыя гукі,
Не розуму збалелага нарыў,
Ён — час, што нам аддадзены у рукі,
Вось вам і час... А хто яго стварыў?

Даруй мне, мама, час твой быў кароткі,
І мой такі ж і ваш: і твой, і твой...
Не толькі мы, жылі няшмат і продкі
У кожнага таго, чый продак вой.

Яны свой час, свой лёс трымалі самі
На мужных межах Полацкай зямлі,
Каб нейчы лёс аздобіў каласамі
Параненыя ворагам палі.

Каб продкі тых, хто сёння час трымае,
Паспелі нарадзіцца, выжыць, жыць,
А іх нашчадкі сёння маскі маюць
І толькі імі могуць даражыць.

О, тыя маскі, маскі дабрадзеяў,
Сяброў народа і народных слуг,
Што нас адвеку цешылі надзеяй,
Куркі, усё ж, трымаючы наўспруг.

Мы як сляпыя верылі прамовам,
Расце завод, яшчэ, яшчэ завод,
І ўсе яны — магутнасці аснова
Майго народа. Чуеш, мой народ?

Ты будзеш моцны, як ніхто на свеце,
Узорам для народаў і часоў,
Калі атрутай будуць дыхаць дзеці,
Як сёння ля заводскіх карпусоў.

А маскі толькі лыпалі вачыма:
— Атрута? Дзе?! Не верце крыкунам!
У нас такое проста немагчыма!
Ганіце план! І давярайце нам...

Мы давяралі, маскі кіравалі,
Тлумачылі, змянялі думак свет
І нашу мову з сэрцаў вырывалі,
І нашы душы кралі неўпрыкмет.

Што ім усім да гэтай мовы, мама,
Да гэтых душ, прывучаных згарэць...
Пясочак жоўты сыплецца ў яму,
Шапоча штосьці, а што — не разабраць.

Ён шэпчацца з зямлёй, як дрэвы з ветрам,
Як кран з вадой, калі я п'ю ваду,
Як лёгкія з атручаным паветрам,
Як людзі, адчуваючы бяду.

### III

18 сакавіка 1988 года жыхары Навапалацка сабраліся ў Палацы культуры нафтавікоў і прылеглай да яго плошчы на экалагічны мітынг — сустрэчу з гарадскімі ўладамі...

(Жыццёвы факт).

Шматтысячны натоўп
Гуртуецца на пляцы,
Шматтысячны натоўп
Узрушана гудзе,
Міліцыянеры
На ганку ля палаца,
Міліцыянеры
Уроссып між людзей.

Вы не туды прыйшлі,
Ахоўнікі законаў,
Закон парушыў той,
Хто вам не па зубах;
Ён і на вас па дзве
Атручаныя тоны[1]
Адмераў без турбот
У той застойны час.

Адмераў і пайшоў
Сваёй крывой дарогай,
Між нас не захацеў
Ні жыць, ні існаваць,
Мы не яго боль,
Мы не яго трывога,
Ды што там мы, калі
Патрэбна план даваць.

Шматтысячны натоўп
Гамоніць і віруе,
І руху не спыніць,
І не заторкнуць рот,
Бо праўда і душой,
І розумам кіруе,
Народ не прамаўчыць,
Калі ён ёсць народ.

Яму на ўсё стае
Адвагі, сілы, моцы,
Ён вечны дабрадзей
У подумах сваіх,
А з моўніцы гучыць:
— Давайце без эмоцый! —
Нібыта столькі год
Мы не жылі без іх.

Нібыта столькі год
Цярпліва не маўчалі,
І вось цяпер — палац,
Бетонныя муры...
Нас не адзін мільён,
Хоць тысяча у зале,
Нас не адзін мільён,
Хоць меней на двары.

Мы гэтулькі гадоў
Ішлі сюды наўмольна,
Маўчалі ў цішыні
Атрутлівай імжы,
І вось ён — мікрафон,
Адзін — непадняволыны,
Як маеш што сказаць —
Прабіся і скажы.

— Мы на сваёй зямлі
Не ворагі, не змоўцы,
Паветра мала нам
І сонца нестае... —
Вандруе мікрафон,
Змяняюцца прамоўцы,
Ніхто не рэжа праўду,
Бо кожны праўдай б'е.

— Што ні завод наўкол,
То котлішча смуроду...
— Канае кволы лес!
— Збязрыбіла рака!
— Хварэем ледзь не ўсе!!
— Дзівіцеся, народы,
Якія скарбы ў нас
Ад нафты і бялка!!!

Вандруе мікрафон,
А тыя, што наверсе,
Што без эмоцый нас
Прасілі гаварыць,
Смяюцца нам у твар,
Маўляў, схадзі праверся,
Ці проста стань пад душ,
Калі нутро гарыць.

О, колькі паміж іх
Народных дэпутатаў,
О, колькі паміж іх
Аматараў тушыць
Агонь гарачых душ
І слоў, што на плакатах,
Не з прагай існаваць,
З патрабаваннем: ЖЫЦЬ!

І падалі на дол
Развенчаныя маскі,
Як немагчымы сон,
Як прышласці выток,
Як прывідны зварот
Даўно забранай казкі,
Як чыстае вады
Хай першы, ды глыток.

А заўтра новы дзень
Насунецца атрутна.
Які чарговы «скарб»
Рыхтуе ён для нас?
Што зменіцца і як?
А недзе ў сэрцы чутна:
У тым павінны ты,
Але не час, не час.

[1] На кожнага жыхара Навапалацка хімічная прамысловасць горада выкідвае ў паветра па дзве тоны атрутных рэчываў у год.

# І Ў ГЭТЫМ — ЖЫЦЦЁ

**Штрыхі да партрэта кампазітара Ігара АЛОЎНІКАВА**

Музычная адоранасць... Вельмі часта яна праяўляецца яшчэ ў дзяцінстве ярка і шматбакова: дзіця спявае, іграе на некалькіх музычных інструментах, спрабуе сачыняць музыку. Калі ж таленавіты малады чалавек становіцца на самастойны шлях, яго прыродныя музычныя здольнасці выяўляюцца ў адным, радзей — у двух-трох напрамках. Так адбываецца ў нашы дні станаўленне многіх музыкантаў, якія цалкам прысвяцілі сябе выканаўчай дзейнасці, так ці інакш «разбаўленай» педагагічнай працай.

З гэтага пункту гледжання творчае станаўленне заслужанага артыста БССР Ігара Алоўнікава ўяўляецца даволі незвычайным. Аматарам музыкі ў нашай рэспубліцы ён вядомы як музыкант-выканаўца на фартэпіяна, аргане, клавесіне, як акампаніятар, ансамбліст, аўтар цікавых фартэпіянных транскрыпцый.

А ў дзіцячыя гады музычная адоранасць хлопчыка не пераходзіла межаў любові да фартэпіяна. Усе гады навучання ў Сярэдняй спецыяльнай музычнай школе пры Белдзяржкансерваторыі Ігар Алоўнікаў быў вучнем прафесара І. Цвятаевай. Тут Ігар спасцігаў не толькі асновы ігры на фартэпіяна, але і далучаўся да канцэртнай эстрады. Яшчэ адзінаццацігадовым ён упершыню выступіў з аркестрам, выканаўшы Рапсодыю на тэму «Школьныя гады» Д. Кабалеўскага. На працягу толькі аднаго 1972 года Ігар Алоўнікаў удзельнічаў у трох сур'ёзных конкурсах маладых музыкантаў-выканаўцаў (адзін з іх — Міжнародны конкурс імя Б. Сметаны ў ЧССР). І кожны раз — прызавое месца і званне лаўрэата!

Будучы студэнтам, малады піяніст шмат сіл аддаваў канцэртнай дзейнасці. У самыя розныя гарады краіны выязджалі з канцэртамі студэнты Маскоўскай кансерваторыі: Новасібірск і Ленінград, Яраслаўль і Рыга... І — родны Мінск. Тут адбыліся самыя значныя канцэрты тых студэнцкіх гадоў. У 1975 годзе Ігар Алоўнікаў выканаў праграму з твораў Ф. Шапэна. Годам пазней тут жа, на філарманічнай сцэне, адбыўся вечар фартэпіяннай музыкі Р. Шумана. У 1977 годзе слухачы цёпла прымалі яго выкананне клавесіннай музыкі І.-С. Баха (разам з камерным аркестрам). Яшчэ праз год Алоўнікаў сыграў у Мінску Канцэрт № 2 для фартэпіяна з аркестрам С. Пракоф'ева.

Гады, праведзеныя ў Маскве, пакінулі ў яго памяці глыбокія ўражанні, і ў першую чаргу, ад сустрэч з вядомымі музыкантамі. З другога боку, гэта былі гады свядомай, «дарослай» вучобы. Ігару Алоўнікаву пашчасціла займацца ў класе вядомага савецкага піяніста і педагога, народнага артыста СССР прафесара Я. Фліера. Урок пачынаўся традыцыйна: студэнт іграў твор, потым прафесар коратка характарызаваў работу. А пасля пачыналася самае галоўнае: Фліер сядаў да раяля і сам «паказваў» свой твор, выконваючы яго фрагментамі або цалкам. Дакладныя, кідкія каментарыі педагога дапаўнялі канцэпцыю твора, якая ўзнікала ў свядомасці студэнта.

Тады ж Ігар Алоўнікаў удасканальваўся як музыкант-выканаўца на аргане і клавесіне. Прафесар Л. Ройзман, строгі, нават крыху аскетычны за інструментам, заставаўся такім жа і ў гутарцы, у ацэнках поспехаў сваіх вучняў. Гэта прывучала да асаблівай сабранасці, пунктуальнасці, уважлівасці, што цяпер праяўляецца ў выканаўчай манеры Алоўнікава і тады, калі ён іграе на раялі.

Стажыроўкі (1978—1980) пад кіраўніцтвам заслужанага артыста РСФСР прафесара М. Васкрасенскага падрыхтавалі маладога музыканта да самастойнай творчай дзейнасці. Яна разгарнулася вельмі шырока і шматстайна ўжо ў родным Мінску.

Ігар Алоўнікаў сярод самых цікавых музыкантаў-выканаўцаў Беларусі. Слухачоў прывабліваюць сур'ёзнасць і глыбіня яго выканаўчай манеры, тэхнічная дасканаласць ігры, тонкі густ і асабістае стаўленне да музыкі. Прыкметная асаблівасць: у першыя гады інтэнсіўных канцэртных выступленняў піяніста нярэдка папракалі ў пэўнай сухасці, рацыяналізме ўвасаблення музычнага зместу, сцэнічнай скаванасці, якая здавалася празмернай. Але з кожным новым канцэртам гэтыя якасці рабіліся менш прыкметнымі.

Што для яго самога найбольш важна ў выканаўчым мастацтве? На думку піяніста, нотны тэкст — гэта аўтарскі «запавет» музыканту-выканаўцу. І разам з тым, кожны выканаўца разумее аўтарскі тэкст пасвойму, увасабляе яго «сваёй мовай». І ў гэтым жыццё, рух музычнага мастацтва ад кампазітара да выканаўцы, ад выканаўцы да слухача. Таму прачытанне Ігарам Алоўнікавым музычных твораў самых розных эпох, стыляў, жанраў заўсёды цікавае, прафесійнае, заўсёды адпавядае духу кампазітарскага «я».

Шмат сіл піяніст аддае прапагандзе музыкі беларускіх кампазітараў. Нярэдка яму даручаюць першае выкананне новых твораў. У 1980 годзе І. Алоўнікаў выканаў Канцэрт для фартэпіяна з аркестрам Л. Абеліёвіча. Піяніст нязменна ўдзельнічае ў аўтарскіх канцэртах Г. Вагнера, іграе ягоныя Канцэрт для фартэпіяна і народнага аркестра, сшытак п'ес «Дзіцячыя малюнкі», іншыя творы.

Увагу аматараў музыкі ўсё больш прывабліваюць і яго арганныя канцэрты. Адметнае было, напрыклад, выступленне ў Сафійскім саборы старадаўняга беларускага Полацка: тут Алоўнікаў выступіў як саліст-піяніст, арганіст, акампаніятар, музыкант-ансамбліст. Такое шматбаковае майстэрства характарызуе яго як музыканта высокага прафесійнага ўзроўню.

Яшчэ ў сценах кансерваторыі ён нямала часу аддаваў стварэнню фартэпіянных транскрыпцый. Вабіла ідэя па-іншаму «падаць» музычны матэрыял твора, захоўваючы пры гэтым вобразны змест, перавесці вакальную або аркестравую музыку ў фартэпіяннае гучанне. Самастойная канцэртная дзейнасць нібы ажывіла ранейшую цікавасць да стварэння транскрыпцый. Так з'явіліся фартэпіянныя транскрыпцыі паводле музыкі Я. Глебава («Сувеніры», «Мушкецёры», сюіта па матывах балета «Маленькі прынц»), Г. Вагнера (фрагменты з балета «Святло і цені»), У. Алоўнікава («Гумарэска», парафраза «Запрашэнне на танец»).



На канцэрце заслужанага артыста БССР І. Алоўнікава ў Полацкай карціннай галерэі.

Фота Э. ЦЕЦЯРЭЎСКАГА.

Усё большае прызнанне атрымлівае педагагічная дзейнасць маладога музыканта. Ён выкладае ў кансерваторыі, дзе загадвае кафедрай спецыяльнага фартэпіяна, і ў Сярэдняй спецыяльнай музычнай школе пры БДК. І тут — тая ж адказнасць, высокі прафесіяналізм. У Алоўнікава цудоўная памяць, ён ведае дзесяткі твораў. І на ўроках, і на экзаменах ён заўсёды дае дакладныя, глыбока аб'ектыўныя ацэнкі чужому выкананню, якія заснаваны на веданні найдрабнейшых дэталяў нотнага тэксту. У час студэнцкіх экзаменаў у кансерваторыі Алоўнікаў нярэдка сядае за другі раяль, каб выканаць партыю аркестра ў рознага роду сачыненнях для фартэпіяна з аркестрам. Цудоўны акампаніятар і ансамбліст, ён дапамагае партнёру як мага паўней раскрыць сваё разуменне выконваемай музыкі. Дапамагае маладым...

Лідзія ДВОРЖАЦ.

Цяпер зноў паклічу сабе ў хаўрусніцы музу гісторыі Кліо (спадзяюся, што яе абурэнне пасля майго артыкула ў «Литературной газете» за 17 лютага 1988 г. усё-такі мае іншых адрасатаў) і разам з ёю паспрабую адказаць на Вашы, пагадзіцеся, не надта карэктна сфармуляваныя пытанні.

Цалкам згодны з Вамі, што няведанне многімі нашымі суайчыннікамі нацыянальнай гісторыі нельга тлумачыць адным узроўнем падручнікаў. За падручнікамі стаяць іх аўтары, за аўтарамі — час, які іх нарадзіў... Зрэшты, пра ўсё гэта ўжо ішла гаворка і ў друку, і на апошнім пленуме праўлення СП БССР. Нараканняў, як Вы слушна зазначаеце, заслугоўваюць не толькі гісторыкі, але і дзеячы культуры, літаратары. Праўда, здаецца, яны ўсё ж заслужылі гэтага трохі ў меншай ступені, чым большасць прафесійных служак Кліо. Згадайма, колькі зрабіў для вяртання нам памяці адзін толькі У. Караткевіч. Згадайма кнігі К. Тарасава, Л. Дайнекі, В. Іпатавай, А. Мальдзіса, В. Коўтун, Э. Ялугіна...

Але ў дадзеным выпадку Вашы папрокі датычаць найбольш асабіста мяне. Мой артыкул «Калі чырванее Кліо» чамусьці выклікаў у Вас не зусім зразумелае жаданне выкрыць аўтара ў недасведчанасці і некампетэнтнасці. Між іншым, займаючыся гэтым, Вы нечым нагадваеце некаторых нашых юрыстаў, якія забываюць на прэзумпцыю невінаватасці, інакш кажучы, на тое, што, каб лічыць чалавека вінаватым, спярша трэба ягоную віну даказаць.

Спачатку Вы западозрылі мяне ў няведанні таго, што М. Гусоўскаму належыць не толькі «Песня пра зубра». Пазбыцца такіх падазрэнняў можна, пагартаўшы маю аповесць «Час чумы» («Маладосць», № 5, 1988), прысвечаную нашаму выдатнаму паэту-лаціністу, якога, паверце, я люблю не меней, чым Вы, хоць, на жаль, і не чытаю ў арыгінале. Калі б да літаратурных твораў прыкладалася бібліяграфія, Вы б знайшлі ў гэтым спісе шэраг сваіх артыкулаў і сваю грунтоўную манаграфію, што вельмі дапамаглі мне ў працы. Дарэчы, каб папярэдзіць магчымыя новыя папрокі, адразу хачу «з'явіцца з павіннай»: згаданая ў аповесці паэма Гусоўскага пра янычара — не вынік невуцтва аўтара, а плён ягонай фантазіі, на якую аўтар, згадзіцеся, мае права (вядома, пры ўмове захавання гістарычнай верагоднасці).

Далей Вы дзеліцеся сваімі сумненнямі наконт таго, ці ведае У. Арлоў, якія творы праславілі ў апошні час Сымона Буднага і ці чуў У. Арлоў разам з рэдакцыяй «Литературной газеты» (у такой кампаніі ўжо, далібог, трохі весялей) пра Саламона Рысінскага і Яна Ліцынія Намыслоўскага.

Можна было б, вядома, пераконваць Вас, што «ведае і чуў», але замест гэтага хочацца запытацца: а ці лагічна вінаваціць аўтара артыкула ў няведанні нейкіх імёнаў і фактаў толькі на той падставе, што ён гэтыя факты і імёны не прыводзіць? Калі кіравацца такой адметнаю логікай, дык, прабачце, можна ў сім-тым западозрыць і Вас. Ну, скажам, можна ўстурбавана напісаць: «З ліста Я. Парэцкага не відно, ці ведае ён, што, акрамя пералічаных ім твораў М. Гусоўскага, пяру гэтага паэта належаць яшчэ таленавітыя вершы «Павучанне пастарам», «На ахвярапрынашэнне чорнага быка», «Шаноўнаму Эразму Плоцкаму суцяшэнне»?» Або падазрона пацікавіцца: «Ці ведае Я. Парэцкі, што Сымон Будны напісаў не толькі філасофскі трактат «Пра дзве прыроды Хрыста», але і такія творы, як «Аб галоўных палажэннях хрысціянскай веры» і «Пра свецкую ўладу»?» Або яшчэ: «Ці чуў Я. Парэцкі пра Васіля Цяпінскага, які пераклаў на беларускую мову і выдаў Евангелле? Ці ведае ён пра паэта, філосафа і тэарэтыка літаратуры Мацея Казіміра Сарбеўскага, які ў 20-ыя гады семнаццатага стагоддзя чытаў у Полацку універсітэцкія курсы па тэорыі, паэзіі, прамоўніцкаму майстэрству і міфалогіі?»

Разумею Вашы, Якаў Ільіч, пачуцці з тае прычыны, што рэцэнзія на Вашу сапраўды цікавую і змястоўную манаграфію пра С. Рысінскага з'явілася ў Італіі амаль адразу пасля выхаду кнігі, а на Беларусі нам даводзіцца чакаць такой рэцэнзіі ўжо цэлыя пяць гадоў. Нельга даравац нашым крытыкам і адсутнасць водгукаў на Ваша манаграфічнае даследаванне пра М. Гусоўскага. Разумею і крыўду на рэдактараў дарэмна неназванага Вамі часопіса — органа СП БССР. Аднак па-ранейшаму не магу зразумець, за што Вы пакрыўдзіліся на артыкул у «Литературной газете» (няўжо за тое, што там не згадана Ваша імя), як не разумею і раздражнення, якім прасякнуты ўвесь Ваш ліст.

І апошняе. Даруйце, але Ваш тэзіс, што літаратарам трэба «перш за ўсё знаёміць грамадскасць з мастацкімі, змястоўнымі помнікамі мінулага, а толькі потым даваць волю творчай фантазіі, сачыняць раманы і аповесці, талкаваць легенды», выглядае, мякка кажучы, паспешлівым. Як жа тады быць, напрыклад, з нашым незабыўным У. Караткевічам, які ўсё жыццё грашыў тым, што сачыняў раманы і аповесці, а часам нават і легенды? Напэўна, адна з першачарговых задач пісьменнікаў — усё ж якраз у тым, каб даваць творчай фантазіі волю. Здаецца, збіраючыся растлумачыць літаратарам, чым ім належыць займацца перш за ўсё, Вы забылі на параду, якую дае ў адной са сваіх сентэнцый Ян Ліцыній Намыслоўскі. Працытую яе яшчэ і дзеля таго, каб канчаткова развеяць Вашы падазрэнні, што гэтае імя мне невядома: «Не торопись, собираясь на дело, сначала подумай. Взвесив же всё наконец, снова не торопись» (пераклад Я. Парэцкага).

З павагаю і з пажаданнем новых поспехаў у навуцы і ў высакароднай справе вяртання сучаснаму чытачу твораў нашых сярэднявечных пісьменнікаў.

**Уладзімір АРЛОЎ.**

## ІШЛА ВАЙНА НАРОДНАЯ

# Каля Заходняга Буга

Застава ўжо некалькі дзён жыла ў трывожным чаканні. З-за ракі даносіўся цяжкі рокат магутных танкавых матораў. У акупіраваным фашыстамі польскім сяле Яблычне было поўна варожых салдат. А на світанку дваццаць другога чэрвеня неба над граніцай распароў рокат бамбардзіроўшчыкаў, які заглушалі разрывы снарадаў. Палітрук Елістратаў, не паспеўшы надзець фуражку, выбег на ганак, скамандаваў:

— У ружжо! К бою!

У тую раніцу палітрук паслаў малодшага сяржанта Аляксея Новікава і радавога Мікалая Стаўніцкага да берага, да купы старых дубоў. Аляксей схапіў ручны кулямёт, Мікалай — бляшанку з патроннымі дыскамі, і яны пабеглі па натаптанай сцежцы. Ці ж маглі ведаць сябры, што адзін з тых велізарных дубоў увойдзе ў гісторыю пагранічча як «дуб Новікава»?..

Ад масіраванага артабстрэлу запалалі пабудовы камендатуры і заставы. Тушыць пажар не было калі, ды і каму: пагранічнікі знаходзіліся ў акопах. Аляксей Новікаў і Мікалай Стаўніцкі — на самым пярэднім краі абароны. Спачатку заляглі каля дуба, з-за якога добра відаць была рака і супрацьлеглы бераг, але потым Аляксей узлез на дрэва і прыладзіў кулямёт на тоўстай галіне. Мікалай стаяў унізе, гатовы ў любую хвіліну падаць яму запасны дыск.

Ледзь толькі змоўкла кананада, на левы бераг Заходняга Буга высыпала варожая пяхота. Фашысты цягнулі да вады пантоны і лодкі. Некалькі пласкадонак адразу ж адплылі.

І вось ужо лодкі ля нашага берага. Тут ужо нічыёй каманды не патрабавалася. Малодшы сяржант прыцісну прыклад кулямёта да пляча і націснуў на спуск. Страляў, пакуль не замоўк кулямёт. Пярэднія лодкі, перавернутыя і прадзіраўленыя, панесла плынню, па вадзе плылі фуражкі і пілоткі загінуўшых, а ацалелыя гітлераўцы з крыкам боўталіся ў вадзе, стараючыся выбрацца на бераг.

Аляксей крыкнуў:

— Коля! Давай!

Спрытна падхапіў кінуты Стаўніцкім дыск. Азірнуўся, і ад убачанага перахапіла дыханне: заставскія пабудовы дагаралі, чорны дым цягнуўся да неба.

— Коля, а дзе ж усе нашы? Збегай, паглядзі!

На тым беразе нейкі час стаяла падазроная цішыня. Потым пачуліся нягучныя воплескі, над ракой і дубамі пранёсся свіст, і заставу, якая дагарала, страсянулі выбухі. Пакуль працягваўся абстрэл, Аляксей чакаў, зручней уладкоўваючыся на сваёй незвычайнай агнявой пазіцыі. Ён разумеў, што фашысты не кінуць спробы фарсіраваць раку, прычым менавіта ў гэтым месцы, дзе бераг зручны для прычальвання лодак. Праз хвіліну передумаў, саскочыў на зямлю і залёг з кулямётам ля разгалістага карэнішча.

Пачуўшы таропкія крокі Мікалая, спытаў:

— Ну, як там? Што з хлопцамі?

І замоўк, убачыўшы непрывычна бледны твар сябра.

— Няма больш заставы... Няма нікога...

Султаны агню і зямлі ўскінуліся непадалёк ад пагранічнікаў, асколкі ўрэзаліся ў ствалы дрэў.

Левае плячо Аляксея праця́ла нібы электрычным токам. Мікалай, які назіраў за варожым берагам, краем вока ўбачыў, як малодшы сяржант спрабуе адной рукой дастаць з сумкі індывідуальны пакет.

— Што здарылася, камандзір? Паранены?

Хутка перавязаў Новікава, памог прасціснуцца ў дупло.

Болю Аляксей не адчуў, толькі плячо палала ды пальцы левай рукі нібы змярцвелі. Трымаў кулямёт адной правай рукой, паклаўшы ствол на край дупла. Даў першую чаргу. Пачуў, як побач з-за дуба страляе з вінтоўкі Стаўніцкі. Зноў націснуў на спуск. Біў кароткімі чэргамі.

І другая спроба ворага фарсіраваць Заходні Буг захлінулася.

— Здаецца, пакуль што выстаялі... — зазірнуў у дупло Стаўніцкі.

— Вось іменна: пакуль што. Цяпер яны нас заўважылі. Але нічога, проста так нас не возьмуць. Патронаў толькі малавата. Там, — кіўнуў галавой убок, — больш нічога не засталося?

— Пагляджу, — адказаў Мікалай і пабег да акопаў.

«Трэба было б у іншае ўкрыцце», — падумаў Новікаў, але як толькі паспрабаваў выбрацца з дупла, усё цела празаў нясцерпны боль, ад якога ледзь не страціў прытомнасць. Зразумеў: тут давядзецца трымацца да канца. Чакаючы сябра, паклаў каля ног гранаты, праверыў затвор кулямёта.

З-за бліжэйшых хат сяла Яблычна зноў забіла артылерыя. Аляксей шчыльней уціснуўся ў дупло.

Артналёт быў кароткі. Дзве групы гітлераўцаў кінуліся ў абход небяспечнага месца. Магутна ўдарылі буйнакаліберныя кулямёты, устаноўленыя на пантонах. Яны палівалі дубовы гай градам куль.

Стаўніцкаму ўдалося паўзком прабрацца на выручку камандзіру. Ён прыцягнуў на рэмені скрынку з кулямётнымі патронамі. Хутка ўзяў запасны дыск, крыху прыўстаў на каленях, каб прасунуць яго ў дупло, і раптам рэзка нахіліўся, упаў галавой у траву.

— Коля, што з табой? Коля!..

«Цяпер адзін... Зусім адзін застаўся», — падумаў Аляксей. Мінутная слабасць змянілася рашучасцю, і ён прадаўжаў страляць з разлікам, кароткімі, хлёсткімі чэргамі.

Але вось кулямёт, уздрыгнуўшы, выкінуў гільзы апошніх патронаў. Аляксей схапіў гранату, з цяжкасцю разагнуў вусікі, зубамі вырваў чаку. Лімонка ўзарвалася ля ног фашыста. Другую гранату кінуць не паспеў. Толькі адчуў моцны штуршок у грудзі...

Апрытомнеў Аляксей на сярэдзіне ракі ў лодцы. Зразумеў: здарылася самае страшнае, пра што думаў і помніў з першай хвіліны бою, але ніяк не мог дапусціць, што гэта здарыцца менавіта з ім...

Толькі праз многія гады стала вядома, што ў Яблычне гітлераўцы жорстка мучылі абяскроўленага і знясіленага савецкага пагранічніка.

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР мужны воін-чэкіст малодшы сяржант Аляксей Аляксандравіч Новікаў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны, а яго імя прысвоілі адной з застаў Чырванасцяжнай Заходняй пагранічнай акругі.

**А. ЛЯХОЎСКІ,** маёр.
**В. КОБЫСЬ,** ст. лейтэнант запасу.

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

# МЫСЛІЦЬ У КАНТЭКСЦЕ ГІСТОРЫІ

У пачатку года адбылася XI Усесаюзная навуковая канферэнцыя гісторыкаў-славістаў, прысвечаная важнейшай у канцэптуальным сэнсе тэме — «Вялікі Кастрычнік і замежныя славянскія краіны». Гаворка ідзе пра цэлы шэраг вузлавых пытанняў, якія вырашае савецкае славяназнаўства ў святле палажэнняў XXVII з'езда КПСС. Знамянальна, што гэты аўтарытэтны форум, арганізаваны такімі ўстановамі, як Міністэрства вышэйшай адукацыі СССР, Міністэрства вышэйшай адукацыі БССР, Інстытут славяназнаўства і балканістыкі АН СССР і Беларускі універсітэт імя У. І. Леніна, прайшоў у сталіцы Беларусі Мінску. Гэты факт сведчыць пра пэўныя дасягненні славістаў рэспублікі, паўнагучны голас яе вучоных, які прыкметна гучыць ва ўсесаюзным кантэксце. І разам з тым хацелася б спыніцца на асобных недахопах, якія мелі месца ў рабоце канферэнцыі. У першую чаргу трэба адзначыць тое, што сярод 17 дакладаў і 236 паведамленняў, якія прагучалі ў час работы пяці секцый, было надзіва мала выступленняў, якія датычаць пытанняў гісторыі, культуры, мовы беларускага народа, яго духоўных памкненняў у кантэксце ўзаемадзеяння з культурамі ўсходніх, заходніх і паўднёвых славян. Крыўдна, што арганізатары не знайшлі магчымасць уключыць у праграму ўсесаюзнага, так сказаць, спецыяльнага славістычнага сімпозіума шэраг тэм, прысвечаных спадчыне Францыска Скарыны, яго ролі ў працэсе фарміравання беларускай літаратурнай мовы і асвятлення яго заслуг як першадрукара і асветніка ў міжнародным маштабе. Аналагічнае пажаданне можна выказаць і ў адносінах да імя яшчэ аднаго вялікага сына беларускага народа — Кастуся Каліноўскага, 150-годдзе з дня нараджэння якога адзначаецца ў гэтым годзе. На жаль, у стракатым мностве тэм практычна засталася незаўважанай асоба нацыянальнага героя Беларусі.

Сёння, калі мы імкнёмся да дэмакратызацыі, да таго, каб у гісторыі народаў СССР не заставалася «белых плям», гісторыкі першымі павінны б адмовіцца ад руціны, парадных формул, ад усялякага замоўчвання жывых старонак летапісу нашай шматнацыянальнай дзяржавы ў імя глыбіннага сэнсу дружбы народаў, парадзёных, кажучы словамі Паўла Тычыны, «пачуццём сям'і адзінай».

**М. ЗІМОМРА,** прафесар Ужгарадскага дзяржуніверсітэта, доктар філалагічных навук.

# ЧАСОПІСЫ Ў ЛІПЕНІ

## «ПОЛЫМЯ»

Друкуюцца паэма П. Пруднікава «Таймыр», вершы М. Мятліцкага, А. Каско, аповесць В. Хомчанкі «Стрэл у акно», апавяданні А. Жука, казкі В. Шырко «Дзед Манюкін не салжэ».

У раздзеле «З літаратурнай спадчыны» І. Багдановіч прадстаўляе «Лісты да сабакі» Я. Пушчы.

«Боль Зямлі» — справаздача Р. Частновай з «круглага стала», прысвечанага ахове прыроды.

«Гіпербалоід... Міколы Нямковіча» — нарыс А. Шагуна.

Чытач пазнаёміцца з пачаткам гісторыка-этнаграфічнага нарыса М. Улашчыка «Вёска Віцкаўшчына» (слова ад перакладчыка У. Арлова), працягам дзённіка В. Бечыка «Радкі і жыццё» (публікацыя Л. Кароткай), артыкулам М. Арочкі «Абуджэнне гаспадара».

Рэцэнзуюцца аповесць В. Быкава «Туман» (беларускі варыянт «У тумане») у перакладзе на ўкраінскую мову (І. Капаціенка), «Хроніка дзетдомаўскага саду» В. Казько (І. Афанасьеў), кніга крытыкі Г. Шупенькі «Галоўнае — талент» (Т. Шамякіна).

Падборка матэрыялаў В. Віткі «Слова напашэве» прапануецца ў раздзеле «Культура мовы».

Ёсць раздзелы «З рэдакцыйнай пошты» і «Дзядоўнік на Парнасе».

## «БЕЛАРУСЬ»

Фотарэпартаж Р. Колабава і Ю. Іванова «Дапамажы, калі трэба...» знаёміць з вядомай даяркай Л. Брызга.

Змешчаны пачатак нарыса І. Барысава «Уцёк з-пад пятлі», працяг нарыса В. Жука «Бераг левы — бераг правы», нарысы В. Дубінкі «Як жывеш, чалавек?», У. Старчанкі «Далікатная справа», вершы К. Цвіркі, М. Мятліцкага, А. Каско, апавяданні П. Кавалёва і Ю. Пучынскага, штрыхі да творчага партрэта Р. Янкоўскага «...Сапраўдным пачуццям не трэба аздобы», напісаныя Б. Бур'янам; нататкі В. Карамазава «Жыццё па Хемінгуэю» з падарожжа па астравах Індыйскага акіяна, палемічныя нататкі Г. Кісліцынай «Нязвыкласць» пра Л. Дранько-Майсюка.

Да 70-годдзя з дня нараджэння Р. Бярозкіна — артыкул Ю. Канэ «Восем радкоў» і лісты М. Танка, вядомага ўкраінскага літаратуразнаўцы Л. Навічэнкі, Л. Геніюш, адрасаваныя ў свой час крытыку.

Выступленнем Я. Скрыгана «Самы дарагі скарб» часопіс пачынае старонку «Роднае слова».

Артыкулам «Купалінка, купалінка...» П. Ламан запрашае да размовы аб народнай песні.

## «МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ»

Нумар адкрываецца матэрыяламі пра беларускае кіно і тэлебачанне: А. Бабковай «Адкуль грэх, або Некалькі разваг пра справы кінапракатныя», дыялог Э. Мельнікава і Г. Холад «Творчасць, пошук і... канвеер», Е. Бондаравай «І слова — вобраз».

Пытанні гісторыі і сучаснага стану выяўленчага мастацтва разглядаюцца ў публікацыях Г. Сокалава-Кубая і Я. Шунейкі «Да і пасля аўкцыёна», В. Крупеніч «Падказана жыццём», Г. Фатыхавай «Тыя трывожныя гады», П. Васілеўскага «Крыкам нічога не пабудуеш», Д. Мароза «Хараство і багацце свету», Л. Вараб'ёвай «Сучаснасць і традыцыйнасць», М. Раманюка «Песня Беларусі».

Пад новай рубрыкай «Даведнік «Мастацтва Беларусі» змешчаны артыкул В. Шамшура «Паглядзець без акуляраў» — пра супрэматызм як плынь абстрактнага мастацтва.

У альбом калекцыянера прапануецца расказ пра «Барысаглебскую царкву ў Навагрудку» А. Кушнярэвіча.

«Рэха кахання» В. Сярых, «Чарадзейная флейта» на беларускай сцэне» Н. Юдзеніч, «Практыка і тэорыя» Р. Сергіенкі — матэрыялы музычнага раздзела.

Тэатру прысвечаны артыкулы В. Арэшкі «Заслона расхінаецца...», З. Пасюцінай «Мільён дробязей», І. Недабельскай «Звярніце ўвагу на артыстаў эстрады», М. Каладзінскага «Тэатр і гісторыя».

---

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніцы Юліі Канэ з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці маці.

Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку, старшыні праўлення Беларускага фонду культуры Чыгрынаву Івану Гаўрылавічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю маці.

Калектыў супрацоўнікаў Беларускага фонду культуры выказвае глыбокае спачуванне старшыні праўлення фонду пісьменніку Івану Гаўрылавічу Чыгрынаву з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці маці.

Рэдакцыя часопіса «Полымя» выказвае глыбокае спачуванне члену рэдкалегіі часопіса, старшыні праўлення Беларускага фонду культуры пісьменніку Івану Чыгрынаву ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю маці.

